*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года    № 27 (515)    4 ЛІПЕНЯ 2001 г.

## 150 гадоў з дня нараджэння Янкі ЛУЧЫНЫ



### РОДНАЙ СТАРОНЦЫ

Ты параскінулась лесам балотамі,
Выдмай пясчанай неураджайнаю,
Маці-зямліца, і умалотамі
Хлеба нам мерку не даш звычайную.

А сын твой, беднаю адзет сярмягаю,
З лыка пляцёныя лапці абуўшы,
Едзе драбінамі ці калымагаю,
Конем, што цягне, як бы заснуўшы...

Усё ў табе бедна. Часта заплача
Мужык араты дзеля злой долі,
Цяжка працуючы. Ён жа, аднача,
З табой расстацца не жджэ ніколі.

І непрыглядную хату з пажыткамі,
І поле скупое, выган без пашы
Мы, апрануўшыся старымі світкамі,
Любім і цэнім -- бо яны нашы.

Дасць Бог крывавым потам аратаму
Здабрыць пясчану зямліцу здарыцца,
Быць добра сытаму, хоць не багатаму,
А дзеля празніка чарка нам зварыцца.

Сонца навукі скрозь хмары цёмныя
Прагляне ясна над нашай ніваю,
І будуць жыці дзеткі патомныя
Добрай доляй -- доляй шчасліваю!..

*Янка Лучына.*

## Рэспубліканская рада ТБМ

1 ліпеня 2001 года ў 11.00 ў Дольнай зале Чырвонага касцёла адбылося паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ. На радзе былі разгледжаны пытанні:

1. Зацверджанне плана дзейнасці ТБМ на 2-е паўгоддзе 2001 года.
2. Фармаванне камісій ТБМ:
- справаздачы старшынь камісій ТБМ;
- зацверджанне складу камісій.
3. Аб стварэнні камісіі па распрацоўцы кампутарных беларускамоўных праграмных прадуктаў.
4. Прыняцце пастановы аб падпісанні "Дэкларацыі аб беларускай мове".
5. Зварот да ўдзельнікаў прэзідэнцкай кампаніі.
6. Пытанні інтэрвію газеты "Наша слова" з удзельнікамі прэзідэнцкай кампаніі.

На паседжанні рады былі зарэгістраваны новыя суполкі ТБМ: 2 суполкі ў г. Оршы і 1 у г. Барань Аршанскага раёна, суполкі ў Лепелі, Сянно і Докшыцах.

Рада выказала падзяку Гарадзенскай абласной (старшыня Місцюкевіч) і Мазырскай раённай (старшыня Піскун) арганізацыям за актыўнае правядзенне падпіснОй кампаніі на газету "Наша слова".

Пасля рады адбылася ўрачыстая імпрэза з нагоды 150-годдзя з дня нараджэння Янкі Лучыны.

*Матэрыялы і дакументы рады будуць надрукаваны ў наступных нумарах.*

## 12 патрыётаў з СШ № 191

Сёлета паспяхова закончылі вучобу ў СШ № 191 г. Менска 12 хлопчыкаў і дзяўчынак з роднамоўнага класа, у якім да пераезду з мікрараёна "Уручча" у "Малінаўку" вучыўся і мой сын Цімур.

Гэтыя вучні годна прайшлі праз усе выпрабаванні. За свае правы набываць веды на роднай мове яны актыўна змагаліся: пасылаючы трывожныя лісты ў прэсу, калі паўстала пагроза закрыцця класа, выходзілі з патрабаваннямі ў пікеты.

Безумоўна, поспехі былі б значна меншымі, калі б дзяцей не падтрымлівалі іх бацькі, настаўнікі. Асаблівай павагі тут заслугоўваюць першая настаўніца Ларыса Гаравая і класны кіраўнік Валянціна Бабінская. Дзякуючы рупнасці Ларысы Фёдараўны школа набыла тэатральны ухіл. Спрыяе беларускасці і дырэктар Галіна Голяш, беларусавед па адукацыі. Хаця, на нашу думку, з такім цудоўным патэнцыялам школа магла б набіраць беларускія класы. Як паказвае практыка ў іншых школах Менска пры большай стараннасці і разваротлівасці педагагічнага калектыву некаторыя набіраюць першакласнікаў толькі на роднамоўнае навучанне. Гэта навучальна-выхаваўчыя ўстановы №№ 2, 60, 68, 72, 89, 190, гімн. 4, 9, 111. Надзеі ўскладваем мы і на СШ № 1, 11, 15, 23, 37, 84, 86, 108, 110, 131, 210, ліцэй 26 ды інш.

Цяпер мы радуемся за поспехі самага маленькага і самага здаровага класа ў СШ № 191. З 12 выпускнікоў чатыры закончылі з залатым медалём і адзін са срэбным. Дыктоўку па-беларуску амаль усе, 11, напісалі на выдатна! З гэтай нагоды Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай школы" і павіншавала выпускнікоў, іх бацькоў і педагогаў і ганаравала дыпломам за рашучасць і прынцыповасць у адстойванні беларускамоўнага навучання і поспехі ў вучобе. Прыемна адзначыць, што падобны ганаровы ліст атрымалі ўжо лепшыя беларускія вясковыя школы, а таксама 13 сталічных адукацыйных устаноў. А папярэднімі ганараваннямі (дыпломамі № 67-69) адзначана дзейнасць Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна і Алега Трусава. Віншуем!

*Алесь Лозка,*
*прэзідэнт Таварыства беларускай школы.*

## Выбары беларускага прэзідэнта без беларускай мовы

22 чэрвеня 2001 г. старшыня ГА ТБМ імя Францішка Скарыны Алег Трусаў накіраваў старшыні Цэнтральнай камісіі па правядзенні выбараў і рэспубліканскіх рэферэндумаў сп. Лідзіі Ярмошынай ліст наступнага зместу

***"Паважаная спадарыня!***

***Пачалася прэзідэнцкая кампанія, і адразу ўлады пачалі па-ранейшаму абмяжоўваць выкарысатнне дзяржаўнай беларускай мовы. На жаль, Вы праявілі тут нечаканую актыўнасць, пра што сведчыць Ваш ліст сп. Папкову за № 263/01-7 ад 18.06.2001 г. Вашыя дзеянні парушаюць артыкул 50 дзеючай Канстытуцыі і падпадаюць пад артыкул 172² ?дміністрацыйнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь.***

***Таму мы настойліва прапануем Вам выправіць свае памылкі і тэрмінова надрукаваць усю неабходную выбарчую дакументацыю (у тым ліку і падпісныя лісты) на дзяржаўнай беларускай мове – тытульнай мове беларускай нацыі.***

***Звяртаем Вашу ўвагу, што запрашэнні на выбарчыя ўчасткі ў апошнюю выбарчую кампанію таксама былі зроблены на мове суседняга народа, чаго нават не было ў савецкія часы. Спадзяемся, што гэты недарэчны факт болей не паўторыцца.***

***Мы не сумняваемся, што сябры Вашай камісіі добра знаёмыя з пазіцыяй кіраўніка беларускай дзяржавы, выказанай ім у Вітанні да XII з'езда беларускіх пісьменнікаў. На ўсялякі выпадак дасылаем Вам гэты тэкст***

***З павагай,***
***Старшыня ТБМ Алег Трусаў"***

Цяжка сказаць, як будзе сп. Ярмошына выпраўляць "свае памылкі" і ці будзе наогул, але збор подпісаў па ўсёй краіне ідзе на рускамоўных бланках, і, мабыць, ужо дойдзе да канца. Выбар мовы пад час выбараў аказаўся немагчымым, ці акажацца магчымым выбар самога прэзідэнта?

ДЗЕ? ДЗЕ? ДЗЕ?

7 ліпеня мінае год, як знік наш калега, тэлеаператар

Рэпарцёры – не палітыкі.
Журналісты– не суддзі.
Але зафіксаваныя рэпарцёрамі факты наўмысна ці неспадзявана выносяць прысуд нават таму, што палітыкі імкнуцца схаваць ад людскіх вачэй.
Няма рэпарцёра – няма суда?
Дзе Дзмітрый Завадскі?
Хто і з якога права распараджаецца яго лёсам?

Беларуская Асацыяцыя Журналістаў патрабуе праўды!

Дзмітрый ЗАВАДСКІ ДЗЕ?

# З жывой народнай крыніцы

## Шаноўная рэдакцыя!

***Прапаную распачаць у "Нашым слове" новую рубрыку – "З жывой народнай крыніцы" (пад рэдакцыяй доктара філалогіі Паўла Сцяцко), дзе будуць змяшчацца навукова-папулярныя артыкулы з моўных скарбаў Гарадзеншчыны ды іншых мясцінаў Беларусі.***

***На нашай кафедры навукоўцы, аспіранты ды студэнты маюць артыкулы на наступныя тэмы:***

***1. Назвы народных страваў і напояў на Гарадзеншчыне.***

***2. Назвы-характарыстыкі асобы ў гарадзенскіх гаворках.***

***3. Жаночыя найменні ў народнай мове.***

***4. Народныя назвы грыбоў.***

***Ды падобныя.***

***Калі будзе на тое Вашая ласка, спадар Рэдактар, рыхтавацьмем да апублікавання названыя працы.***

***З найлепшымі зычэннямі***

***Супольнік рэдкалегіі "Нашага слова" Сцяцко П. У.***

***Ад рэдакцыі:*** *На наш погляд прапанаваная рубрыка павінна стацца карысным унёскам Гарадзенскага універсітэтата ў папулярызацыю напрацовак беларускай філалагічнай навукі і, магчыма, падштурхне іншыя універсітэты да падобнай працы. Таму мы пачынаем рубрыку запрапанаваную шаноўным Паўлам Уладзіміравічам.*

## ТАК ГАРАДЗЕНЦЫ КАЖУЦЬ НА ДЗЯЦЕЙ

Нягледзячы на шматлікія працы, якія выйшлі і выходзяць у свет і датычаць розных аспектаў аналізу гутаркавай мовы, даследаванні ў гэтай галіне па-ранейшаму не трацяць саваёй актуальнасці. Народныя гаворкі вабяць сваёю выразнасцю і непаўторнасцю, здольнасцю трапна, дасціпна ахарактарызаваць любую з'яву рэчаіснасці і нават чалавека – суб'екта і аб'екта разнастайных штодзённых дачыненняў.

Гарадзеншчына – адмысловы рэгіён Беларусі. У значнай ступені яго адметнасць тлумачыцца геаграфічным становішчам (на захадзе Беларусі), дзякуючы якому гэтыя землі з'яўляюцца скрыжаваннем не толькі гандлёвых, але і культурных шляхоў, а таксама асаблівым гістарычным развіццём. Тут здаўна кантактавалі самыя розныя этнасы: беларусы і палякі, расейцы і летувісы, габрэі і татары. Гістарычныя, геаграфічныя і іншыя адметнасці рэгіёну абумоўліваюць і асаблівасці гарадзенскіх гаворак, лексіка якіх адлюстроўвалася ў шматлікіх лексікаграфічных працах. Іх матэрыял і ёсць аб'ект нашага доследу. Значнае месца ў межах дыялектнай лексікі займаюць разнастайныя асабовыя намінацыі.

Адзін з лексічна-семантычных падгуртоў асабовых найменняў з гаворак Гарадзеншчыны складаюць назвы дзіцяці. Найбольш агульныя і нейтральныя паводле эмацыйна-экспрэсійнай афарбоўкі лексемы – ***дзіця', дзіцё, дзяцёнак, дзіця'к***. Словы ***дзіця', дзіцё*** падаюць і тлумачальныя слоўнікі беларускай літаратурнай мовы. Аднак, у адрозненне ад літаратурных, дыялектныя адзінкі могуць ужывацца з граматычным значэннем усіх трох родаў: ***Дзе мая дзіця? Мой дзіця. Яе першае дзіцё. Дзіцё астаўся маленькі*** *("Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча", т.ІІ, с.56)*. Лексема ***дзяцёнак*** зафіксавана ў Астравецкім раёне, найбольш блізкім да гаворак паўночна-ўсходняга дыялекту, асаблівасцю якога і з'яўляюцца адзінкі такога кшталту.

У гаворках Гарадзеншчыны ёсць шэраг памяншальна-ласкальных формаў да ***дзіця'***, утвораных з дапамогаю адпаведных суфіксаў. Акрамя адзначаных літаратурнымі крыніцамі ***дзіця'тка, дзе'тачка***, гэта такія дэрываты і іх варыянты, як ***дзецяня'тко, дзіця'тка (дзеця'тка, дзі'цятка), дзіцянко', дзецяня'та (дзіцяня'та)*** *мн.*, ***дзя'ткі*** *мн.*

У гарадзенскіх гаворках багата назваў, якія характарызуюць дзіця паводле пэўнай прыкметы ці дзеяння, маюць дадатковае семантычнае адценне, большыні з іх уласцівая яскравая эмацыйна-экспрэсійная афарбоўка. Вось гэтыя назвы: ***ля'ля*** (выкарыстоўваецца ў дзіцячым маўленні), ***гарбузяня'*** (пяшчотлівае; пры дэрывацыі гэтае слова зведала ўплыў з боку назваў маладых істотаў тыпу ***дзіцяня', птушаня'*** і г.д.; параўнайце яшчэ з тураўскім ***гарбуза'*** 'пра малую тоўсценькую дзяўчынку'), ***галаве'шка*** (жартаўлівае; значэнне *'пра дзіця'*, якое падаецца для гэтай адзінкі дыялектнай крыніцай, досыць неакрэсленае, таму цяжка вызначыць, ці суадносіцца слова з літаратурным ***галаве'шка*** *'кавалак дрэва, які абгарэў або яшчэ тлее'*; ва ўяўленні моўнікаў магчыма іншы перанос: *галава' 'частка цела' > галаве'шка* дэмінутыў да *галава' > галаве'шка 'пра дзіця')*. Назоўнік ***булаве'шка*** (экспрэсійнае) зведаў метафарычны і сінекдахічны пераносы: ***булаве'шка*** *'маленькая булава' > 'галава дзіцяці' > 'пра дзіця'*; у нашых гаворках сустракаецца яшчэ ***булаве'шка*** *'дурны, неразумны'* (зневажальнае). ***Куза'ка*** *'пра малое дзіця'* (выражае адносіны непашаны) – заамарфічнае ўтварэнне з ***куза'ка*** *'насякомае'*.

Наступныя найменні – аддзеяслоўныя дэрываты. Яны характарызуюць дзіця паводле дзеяння, суб'ектам або аб'ектам якога яно з'яўляецца: ***завіня'тка*** – верагодна, утварылася на ўзор ***дзіця'тка*** ад ***завіну'ць*** *'загарнуць у што-небудзь'*, ***ашчапе'нец*** *'пра малое дзіця, якое хапаецца рукамі за што-небудзь'* – ад ***ашчапі'ць*** *'абхапіць рукамі, абняць'*, ***дзяржу'н*** *'гадавалае дзіця, якое прывыкла ўвесь час быць на руках'* – ад ***дзяржа'ць*** *'трымаць'*, ***сяду'н і сядзя'к*** *'дзіця, якое доўга не ходзіць'* – ад ***сядзе'ць***, ***шты'бала*** *'дзіця, якое толькі пачало хадзіць'* – ад ***шты'баць*** *'спрабаваць хадзіць; няўмела хадзіць'*, ***ба'біч*** *'дзіця, народжанае жанчынай, якая ўжо пачала ба'біць – прымаць дзяцей у час родаў'*, ***смакту'н*** *'груднное дзіця'* – ад ***смакта'ць*** *'ссаць'*.

Некаторыя адзінкі маюць непразрыстую семантычную і словаўтваральную структуру, напрыклад, ***ашапы'рак*** *'дзіця'* (іранічнае), ***папсэ'ль*** *'тс'* (іранічна-ласкальнае), ***балэ'шак*** *' дзіця некалькі дзён ад нараджэння'*.

Цікавай уяўляецца назва ***баху'р (бахо'р)***. у гаворках Гарадзеншчыны яна ўжываецца з двума значэннямі, у залежнасці ад чаго можа мець палярныя эмацыйна-экспрэсійныя адзнакі: *'1. Пра малое дзіця' (пяшчотлівае), '2. Пазашлюбнае дзіця,* ***байструк'*** *(зняважлівае)*. У абодвух значэннях назоўнік мае адпаведнік жаночага роду: ***баху'рка*** *'маленькая дзяўчынка'*, глыбоцкае ***бахур'ка*** *'пазашлюбнае дзіця (дзяўчынка)*. На малое дзіця кажуць таксама ***бахураня'*** (утварылася на ўзор ***дзіцяня', кураня'*** і г.д.). а для выражэння паняцця ***'байструк'*** існуе і дэмінутыўная форма ***бахуро'к.*** этымалагічна беларускае слова ***баху'р*** узыходзіць праз польскае ***bachur*** *'байструк'*, ***bachor*** *'капрыхнік'* да стараяўрэйскага ***Bachur*** (яўрэйска-нямецкага ***Bacher***) *'малады чалавек; настаўнік'* (гл. "Этимологический словарь русского языка" М. Фасмера, т.І, с.137).

Для назову дзяцей ужываюцца і множналікавыя назоўнікі. ***Бэ'хі*** *'пра малых дзяцей'* (экспрэсійнае) – хутчэй за ўсё гэта назва ўяўляе сабою гукаперайманьнае ўтварэнне ад ***бэ'хаць*** *(ба'хаць)* 'здзяйсняць дзеянне, якое суправаджаецца гукам ***"бах"***; калі так, то ***э*** ўзнікае замест ***а***, відаць, пад уплывам польскай мовы. Назвы ***бубначы'*** уласцівая некаторая варыяцыйнасць асноўнага значэння, а таксама розныя стылічныя адзнакі: ***бубначы'*** *'пра малых дзяцей'* (зняважлівае) і ***бубначы'*** *'дробныя дзеці'* (жартаўлівае). Магчыма, на такое акрэсленне семантыкі паўплывала рознае ўяўленне моўнікаў пра ўнутраную форму лексемы. Калі ў першым выпадку відавочная метафара (***бубна'ч*** *' музыкант, які грае на бубне' > 'той, хто надакучае' > 'пра малых дзяцей'*), то ў другім – можна меркаваць пра дадатковы ўплыў слова ***буба'*** *'дробныя плады чаго-небудзь'*.

Некалькі лексемаў маюць зборнае значэнне ***'дзеці'***: ***дзятва', дзяці'ска (дзе'ціска), бахурня', блазната', жуда', слата'.***

***Дзятва'*** – найбольш пашыраная на тэрыторыі беларускамоўных гаворак нейтральная назва. Яе фіксуюць з паметай *"размоўнае"* нарматыўныя слоўнікі беларускай літаратурнай мовы. Этымалагічна слова ўзыходзіць да індаеўрапейскай формы ****dhei*** *'карміць грудзямі, ссаць'*. У сучаснай беларускай літаратурнай мове вядомае аманімічнае ўтварэнне ***дзятва'*** *'лічынкі пчол, маладыя пчолы'*, яно сустракаецца і ў гаворках, праўда, некаторыя крыніцы гэта значэнне падаюць другім пасля ***'дзеці'***, трактуючы, такім чынам, назоўнік ***дзятва'*** як полісемант.

Лексема ***дзяці'ска*** і яе акцэнталагічны варыянт ***дзе'ціска*** маюць выразнае канатацыйнае значэнне, выражанае фармантам ***–іск-а***, які надае назве павелічальна-зняважлівае адценне, як і ў словах ***нядба'йліска, гультаі'ска*** і інш.: *Дзеціска набіла сцякла. Пашкуства гэтыя дзяціска ("Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча", т.ІІ, с.48)*. Аднак, у дачыненні да лексемы ***дзяці'ска (дзе'ціска)*** суфікс ***–іск*** – выконвае, відаць, не толькі эмацыйна-ацэнкавую функцыю, але з'яўляецца ў некаторай ступені і паказальнікам катэгорыі зборнасці, як у ***бацві'ніска, картафлі'ска*** *'бацвінне бульбы'*, ***бурачкаве'ніско*** *'бацвінне буракоў'* і да т. п. Традыцыйна гэты суфікс лічыцца пазычаным з заходнеславянскіх моваў, у прыватнасці з польскай, дзе ён шырока выкарыстоўваецца. У сваю чаргу Г. А. Цыхун заўважыў, што для заходнебеларускіх гаворак "утварэнні з суфіксам ***–іск- (-ыск-)*** з'яўляюцца натуральнымі і не нясуць выразнай прыкметы пазычання, г.зн. могуць узнікаць на базе "мясцовых" словаў тыпу ***рыжы'ска*** *'ржышча'*, ***гаро'хавіска, хвасці'ско*** ("Беларуска-польскія ізалексы" – Мн., 1975, с.146).

Назва ***бахурня'*** – дэрыват ад ***баху'р*** з суфіксам зборнасці ***–н-я*** (як у словах ***салдатня', шафярня'***). Такім утварэнням зазвычай уласцівая адмоўная эмацыйна-экспрэсійная афарбоўка, радзей яны ўжываюцца з адценнем жартаўлівасці. Слова ***бахурня'***, верагодна, якраз і ёсць той рэдкі выпадак, калі можна казаць пра жартаўлівыя адносіны да аб'екта гутаркі (хоць лексікаграфічная крыніца і не падае адпаведнай паметы), бо ўжываецца яно ў дачыненні да дзяцей, хоць лексікаграфічная крыніца і не падае адпаведнай паметы. У гаворках існуе шэраг роднасных утварэнняў да назвы ***бахурня'***, якія былі згаданыя вышэй.

Назоўнік ***блазната'*** *'малыя дзеці'* ўтвораны ад ***бла'зен (бла'зан)*** пры дапамозе фарманта ***–ат-а***, які і выражае мадыфікацыйнае значэнне зборнасці. У мсціслаўскіх гаворках вядомы фанетычны варыянт ***блазно'та*** з іншай семантыкай – *'маладыя, малы яшчэ'*. І. Насовіч падае адрозную семантычную характарыстыку да кожнага з варыянтаў: ***блазно'та*** зб. *'малалетнія дзеці'* і як полісемант ***блазнота'*** зб. *'1. Малалетнія дзеці. 2. Свавольніцтва, дураслівасць. 3. Нязначнасць, дробязь' ("Слоўнік беларускай мовы", с.27)*. Пяцітомавы тлумачальны слоўнік беларускай мовы фіксуе толькі ***блазно'та*** з паметай "размоўнае" і з двума значэннямі: *'1. Пра непаўналетняга чалавека, хлапчука// зб. Малеча, драбяза (пра дзяцей). 2. Дураслівасць' (т.І,с.382)*. Як бачым, у літаратурнай мове (размоўным стылі) зборнае значэнне *'малыя дзеці'* змяняе свой статус: яно ўжо не дамінанта, а толькі адценне.

Назва ***жуда'*** ўзнікла шляхам метанімічнага пераносу. Мяркуецца, развіццё семантыкі адбывалася тут паводле формулы *"уласцівасць, стан > прычына (крыніца) гэтага стану" – 'трывожнае пачуццё страху > непакой > крыніца непакою'*. Беручы пад увагу рускае дыялектнае ***жуд*** *'шум. гудзенне'*, ***жуде'ть*** *'гудзець. шыпець, шумець закіпаючы (пра самавар, пчалу)'* і ў пэўнай ступені беларускае пастаўскае, вілейскае ***жудзец'ць*** *'дакараць, павучаць, лаяць'* (экспрэсійнае), пастаўскае ***жудлі'вы*** *'надакучлівы, буркlівы'*, можна, відаць, бачыць і перанос *'шум > тыя, хто ўтварае гэты шум'*.

Назоўнік ***слата' (сло'та)*** і ў гутарковай, і ў літаратурнай мове фіксуецца як полісемант. Праўда, у гаворках яго семантычная структура значна больш развітая: *'сырое надвор'е з дажджом і снегам', 'імжа', 'насякомыя', 'гурт дзяцей', 'назола', 'чарада птушак'*. Літаратурнаму ***сло'та*** ўласцівыя два значэнні *'1.Сырое надвор'е з дажджом і мокрым снегам// Вільгаць, макрэча. 2. Пра чалавека, які надакучае, прыстае'*. **Такім чынам, можна** меркаваць, што **назва** ***слата'***, якая ў гродзенскіх гаворках бытуе з зборным значэннем *'гурт дзяцей'*, ёсць метафарычнае ўтварэнне з ***слата' 'назола'***, хаця і пераносы *'насякомыя > дзеці', 'чарада птушак > дзеці'* пры пэўных варунках таксама мажлівыя.

***Кавальчук Аксана,***
***супрацоўнік навукова-даследчай лабараторыі***
***"Вывучэнне народнай мовы Гарадзеншчыны"***
***Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я. Купалы.***

## Шаноўны Алег Анатольевіч!

**Першае.** У "Н. С." ад 25 красавіка надрукаваны мой матэрыял "Пра вынік аднаго міфу". Нажаль у тэксце ёсць памылка (20-ты радок зверху замест ***лотва*** надрукавана ***літва***). Усяго не тая адна літара, а змест матэрыялу змазаны. Гэта тая памылка якую трэба выпраўляць.

**Другое.** Калі чытаеш матэрыялы ў прэсе, якія тычацца нашай гісторыі, то даволі часта складваецца ўражанне што аўтары такіх матэрыялаў заблудзіліся ў трох тэрміналагічных соснах: ***Беларусь, Літва, Жамойць.*** Напрыклад у "Н.С." ад 16 траўня надрукаван артыкул А. Буброўскай "... нам засталася спадчына...". Там ёсць такая частка радка "... няправільных узаемадачыненняў Беларусі і Літвы". Маецца на ўвазе час сярэднявечча. Не было ў тыя часы такога тэрміну Беларусь, а Літвой называлі тых, каго ў наш час называюць беларусамі. Памылка тэрміналагічная пацягнула за сабой памылку факталагічную.

На маю думку было б не блага сабраць у сядзібе прадстаўнікоў рэдакцый (хоць бы незалежніцкіх газет) і іншых зацікаўленых асоб і пагаварыць аб тэрміналогіі, аб тым што расійска-польска-летувіская канцэпцыя нашай гісторыі пачынае, на мой погляд, развальвацца на кавалкі пасля таго, як М. Ермаловіч устанавіў этнічную тэрыторыю племені Літвы.

Са свайго боку я выказваю згоду ўдзельнічаць у такой размове.

***А. Пухоўскі. 19.06.2001 г.***







МГА "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ
БАЦЬКАЎШЧЫНА"
Рэспубліка Беларусь, 220050, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная 15
р/р 3015031780012 у філіі 512 ААТ АБ "Беларусбанк" г. Мінска, код 804
тэл./факс (017) 289 31 94, 226 87 37
e-mail: zbsb@lingvo.minsk.by

## ДА УВАГІ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ КОНКУРСУ НА ТЭМУ "БЕЛАРУСЬ – МАЯ БАЦЬКАЎШЧЫНА, ЯКІ ПРАВОДЗІЎСЯ З ЛЮТАГА ПА ТРАВЕНЬ 2001 ГОДА!

Экспертная камісія, прызначаная Управай Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", падвяла вынікі абвешчанага да Трэцяга з'езду беларусаў свету (5-6 ліпеня) конкурсу на лепшыя сачыненні, вершы, апавяданні па тэмах "Беларусь – мая Бацькаўшчына", і "Што я ведаю пра беларусаў у свеце". Тэмы гэтыя закранулі сэрцы больш за 100 школьнікаў з розных куточкаў Беларусі, нават, з Вільні (Літва).

Найбольш прац прыйшло з раённых цэнтраў, невялікіх гарадоў, а 24 допісы – з вёсак Валожынскага, Стаўбцоўскага, Слуцкага, Нясвіжскага, Пастаўскага, Сенненскага, Глыбоцкага, Талачынскага, Браслаўскага, Міёрскага, Шаркаўшчынскага, Смаргонскага, Навагрудскага, Кобрынскага і інш. Выказваем вялікую падзяку калектыву Грабенскай сярэдняй школы Чэрвеньскага раёна і асабіста настаўніку беларускай мовы Мікалаю Андрэевічу Барбуку, якія правялі школьны конкурс і даслалі працы яго пераможцаў. Прадставілі на конкурс лепшыя свае працы ўдзельнікі паэтычнага гурта "Ветразь надзеі" (кіраўнік Тацццяна Трафімчык) і дырэктар Перарубскай базавай школы ды кіраўніца паэтычнага тэатру "Крынічка" Паліўка Надзея Уладзіміраўна. Міша Башко з г. п. Любча Гарадзенскай вобласці даслаў ажно 4 лісты з цыкламі сваіх вершаў, а Батырава Алёна з в. Навінка, Талачынскага раёна, Віцебскай вобласці даслала яшчэ больш лістоў са сваімі вершамі, дзе гучыць роздум пра бацькоўскі кут, пра родную Беларусь.

Управа МГА "ЗБС" Бацькаўшчына" выказвае шчырую падзяку ўсім удзельнікам конкурсу, якія даслалі свае допісы і з радасцю паведамляе, што пераможцамі конкурсу сталі 30 школьнікаў, якія ўзнагароджваюцца каштоўнымі прызамі ад нашай арганізацыі.

Прозвішчы пераможцаў:

Углянец Максім (г. Менск), Анікевіч Вольга (в. Васількова, Віцебскай вобл.), Скамейка Сяргей (г. п. Бялынічы), Батырава Алеся (в. Навінка, Віцебскай вобл.), Солап Тацццяна (в. Дзвінск, Берасцейская вобл.), Ржэўская Ганна (г. Менск), прозвішча не ўказана (в. Грэск, Слуцкі р-н), Пешчур Жэня (г. Менск), Кубека Вольга (в. Ельцаўшчына, Магілёўская вобл.), Бяганская Насця (г. Іванава, Берасцейская вобл.), Бялянка Тацццяна (г. Магілёў), Абухава Маргарыта (г. Магілёў), Дзірвук Юля (п/а Хвінявічы, Гарадзенская вобл.), Случак Дзмітры (в. Дарасіно, Менская вобл.), Кіраенка Яўгенія (в. Слабада, Віцебская вобл.), Сергіевіч Галіна (в. Дзвінск, Берасцейская вобл.), Бародзіч Алена (г. Глыбокае, Віцебская вобл.), Тоцікаў Ігар (г. Гомель), Леўшыц Люда (г. Пінск), Вайтовіч Тацццяна (г. Лунінец, Берасцейская вобл.), Кароль Наталля, Рамкова Тацццяна, Белавус Дзіма, Крэчка Руслан, Кахпюк Вера, Крэўдзіч Анастасія (Перарубская базавая школа, Берасцейская вобл.), Башко Міша (г. п. Любча, Гарадзенская вобл.), Юрэвіч Марына (в. Цяхцін, Магілёўская вобл.), Асон Станіслаў (в. Карабы-2, Віцебская вобл.), Ількевіч Наталля (в. Старыя Паддубы, Гарадзенская вобл.), Васіленка Аляксандр (г. Крычаў, Магілёўская вобл.).

Вельмі ўсцешвае тое, што расце маладое пакаленне нацыянальна свядомых беларусаў, якім жыць і будаваць Беларусь у XXI стагоддзі.

*Управа МГА "ЗБС" "Бацькаўшчына".*

## Інфармацыйнае паведамленне Арганізацыйнага камітэту па падрыхтоўцы Трэцяга з'езду беларусаў свету

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы Трэцяга з'езду беларусаў свету паведамляе, што зменена месца правядзення З'езду. Гэта выклікана тым, што 29 чэрвеня 2001 г. выканаўчыя ўлады адмовілі ў папярэдпім памяшканні. У адпаведнасці з іх рашэннем інфармуем:

**Трэці з'езд беларусаў свету мае адбыцца ў Доме літаратара (вул. Фрунзе, 5).**

**4 ліпеня** ў сядзібе "Бацькаўшчына" адбудзецца прэс-канферэнцыя арганізатараў З'езду. Пачатак у 15.00.

**5 ліпеня** пачатак Трэцяга з'езду беларусаў свету. Рэгістрацыя ўдзельнікаў - 8.30, пачатак працы - 10.00.

Просім да гэтага часу прайсці акрэдытацыю.

Наш адрас: вул. Рэвалюцыйная, 15 (першы паверх).

Кантактны тэл./факс 289-31-94.

**З павагай Алена Макоўская, старшыня Рабочай групы.**

# Запрашае "Акадэмічная кніга"!




8 чэрвеня 2001 года кнігарня "Акадэмічная кніга" адзначыла свой 25-гадовы юбілей з дня заснавання і 3 гады з дня адраджэння.

З нагоды свята наведалі кнігарню і выказалі віншаванні калектыву в.а. прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук Валатоўскі І.Д., памочнік прэзідэнта НАН РБ Шчэрбін В.К., віцэ-прэзідэнт НАН РБ Гайшун І.В., дырэктар інстытута тэхнічнай кібернэтыкі НАН РБ Танаеў В.С., дырэктар інстытута эканомікі НАН РБ Нікіценка П.Г., загадчык кафедры БДУ Данілаў А.М., намеснік кіраўніка адміністрацыі і загадчык культуры Першамайскага раёна Бур'ян Л.У. і Каралёва Н.А., дырэктар і загадчыца аддзела камплектавання Нацыянальнай бібліятэкі Алейнік Г.М. і Сівакова А.А., намеснік дырэктара і вучоны сакратар Акадэмічнай бібліятэкі ім. Я.Коласа Вербіцкая Л.А. і Зайцава Н.А., дырэктар бібліятэкі Дома афіцэраў Домніч Л.У. На ўрачыстым свяце прысутнічалі таксама кіраўнікі бібліятэк вышэйшых навучальных установаў – універсітэтаў культуры, медыцынскага, аграрна-тэхнічнага, палітэхнічнай акадэміі і многа другіх прыхільнікаў нашай кнігарні.

Але некалькі слоў аб гісторыі "Акадэмкнігі".

Цяжкі лёс напаткаў нашу кнігарню. З пачатку яна мела добрую славу сярод навукоўцаў, студэнтаў і, навогул, сярод усіх, каму патрэбна была сур'ёзная кніга і стабільна працавала пад "дахам" галоўнай фірмы – "Акадэмкніга СССР". Пасля развалу Савецкага Саюзу кнігарня не вытрымала самастойнасці і незалежнасці, пад шыльдай "Акадэмкніга" пачалі прадаваць дарагія футры, касметыку, аўдыё-відэа-тэхніку. Толькі новае кіраўніцтва Нацыянальнай акадэміі навук з дапамогай рэспубліканскіх, гарадскіх і раённых улад вярнулі памяшканне пад кніжны магазін.

Далей справа была за тымі, каму даручана аднавіць кнігарню, так як Нацыянальная акадэмія навук не мела сродкаў, каб абставіць краму сучасным гандлёвым абсталяваннем, выканаць мастацкае афармленне, закупіць вылічальную тэхніку, плаціць якуюніякую заработную плату і г.д.

Сёння "Акадэмічная кніга" мае свой аўтарытэт і добрых сяброў сярод пакупнікоў, аўтараў, выдавецтваў, бібліятэк, навучальных устаноў, гэта сучаснае гандлёвае прадпрыемства, якое вядома не толькі ў Менску і Рэспубліцы, але і далёка за іх межамі. У кнігарні шырокі асартымент па многіх галінах навукі, ёсць таксама мастацкая, дзіцячая і метадычная. Дадзеныя анкетавання пакупнікоў у траўні гэтага года гавораць аб тым, што 88% апытаных задаволены асартыментам нашай кнігарні.

Асабліва мы ганарымся кнігамі раздзелу "Краязнаўства". На паліцах гэтага раздзелу пачэснае месца займаюць кнігі нашых вядомых вучоных, даследчых у галінах гісторыі, культуры, фальклору, мовы і літаратуры. "Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага" Краўцэвіча А., "Хронікі Белай Русі" Белага А., "Манументальнае дойлідства Беларусі XI-XVIII стагоддзяў" Трусава А., "Нараджэнне беларускага музея" Гужалоўскага А., "Адукацыйная палітыка і школа на Беларусі ў канцы XIX пачатку XX ст." Снапкоўскай С., "Сімволіка Беларускай народнай культуры" Крука Я. і многія другія кнігі выклікаюць вельмі вялікую цікавасць у пакупнікоў. Калектыў кнігарні мае вялікае жаданне больш плённа працаваць на карысць нашай кнігі, на карысць нашай навукі, на карысць нашай культуры.

Дарагія сябры, запрашаем Вас наведаць нашу кнігарню з нагоды набыць патрэбную кнігу, а магчыма прапанаваць сваю аўтарскую кнігу для продажу.

Будзем рады супрацоўнічаць з вамі!

**Кнігарня "Акадэмічная кніга" знаходзіцца: г. Менск, пр-т Ф.Скарыны, 72.**

**Тэл./факс 232-00-52, 232-46-52, 232-50-43.**

*З вялікай павагай – дырэктар Жыбулеўская С.А.*



# Сямён Домаш пра нацыянальную сімволіку

26 чэрвеня ў Лідзе адбылася сустрэча Сямёна Домаша з сябрамі ініцыятыўных групаў па збору подпісаў за вылучэнне яго кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. У сустрэчы прынялі ўдзел ініцыятыўныя групы з Ліды, Бярозаўкі і Дзятлава. Адбылася зацікаўленая гутарка па розных праблемах грамдскага і палітычнага жыцця Беларусі. У прыватнасці адказваючы на пытанне, ці будуць пасля перамогі на выбарах вернуты нашыя нацыянальныя сімвалы: бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня", Сямён Домаш сказаў наступнае: ***"Мы папросім нашых гісторыкаў на працягу якога паўгода правесці шырокую тлумачальную і адукацыйную працу па паходжанні, сутнасці, геральдычнай дасканаласці нашых гістарычных і сучасных дзяржаўных сімвалаў, і я ўпэўнены, што народ сам папросіць вярнуцца да гістарычнай нацыянальнай сімволікі".***

Эмблемы сяброў ініцыятыўнай групы Сямёна Домаша выкананы ў нацыянальных колерах. Разам з тым нельга не адзначыць, што надпісы на эмблемах выкананы па-расейску, у чым не бачыцца ну ніякай палітычнай мэтазгоднасці.

У гэты ж вечар у Радуні адбылася сустрэча Сямёна Домаша з ініцыятыўнымі групамі Воранаўскага, Шчучынскага і Ашмянскага раёнаў.



№ 27 (515) 4 ЛІПЕНЯ 2001 г. НАША СЛОВА

# Беларуская мова ў ВНУ Беларусі



МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
МАГІЛЁЎСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ імя А.А. КУЛЯШОВА
МДУ імя А.А. КУЛЯШОВА
212022, г. Магілёў, вул. Касманаўтаў, 1
Тэл. 26-30-11, Факс 32-65-19

МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
УЧРЕЖДЕНИЕ ОБРАЗОВАНИЯ
МОГИЛЕВСКИЙ ГОСУДАРСТВЕННЫЙ УНИВЕРСИТЕТ им. А. А. КУЛЕШОВА
МГУ им. А.А. КУЛЕШОВА
212022, г. Могилев, ул. Космонавтов, 1
Тел. 26-30-11, Факс 32-65-19

11.05.2001 № 661
На № ______ ад ______

11.05.2001г. № 661

**Старшыні Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" А. Трусаву**

Магілёўскі дзяржаўны універсітэт імя А.А. Куляшова паведамляе, што цэнтрамі яго беларускамоўных плыняў з'яўляюцца факультэт славянскай філалогіі, педагагічны факультэт і факультэт замежных моў, на якіх вядзецца падрыхтоўка кадраў па наступных спецыяльнасцях:

1. Беларуская мова і літаратура з дадатковай спецыяльнасцю руская мова і літаратура.
2. Руская мова і літаратура з дадатковай спецыяльнасцю беларуская мова і літаратура.
3. Педагогіка і методыка пачатковага навучання з дадатковай спецыяльнасцю беларуская мова і літаратура.
4. Англійская мова з дадатковай спецыяльнасцю беларуская мова і літаратура.
5. Нямецкая мова з дадатковай спецыяльнасцю беларуская мова і літаратура.

У перспектыве беларускамоўная плынь універсітэта будзе папаўняцца за кошт адкрыцця новых спецыяльнасцяў: "Журналістыка", "Бібліятэказнаўства" і іншыя.

Звяртаем Вашу ўвагу на тое, што пры фармаванні студэнцкіх груп універсітэт рэалізуе такі падыход, які дазваляе не раз'ядноўваць, а аб'ядноўваць студэнтаў разнамоўных плыняў. Гэта дазваляе таксама выкладаць шэраг вучэбных дысцыплін на беларускай мове для ўсіх студэнтаў, а не толькі для беларускамоўнай плыні. Такім чынам, "колькасць беларускамоўных груп" не можа выступаць паказчыкам магчымасцяў атрымання адукацыі на беларускай мове.

Спадзяемся, што Ваша паважаная арганізацыя праінфармуе насельніцтва аб тым, што універсітэт мае магчымасць прадаставіць умовы для навучання на беларускай мове любому жадаючаму студэнту па любой спецыяльнасці, асабліва ў тых выпадках, калі гэты студэнт не валодае рускай моваі.

Дасланыя праекты дакументаў адлюстроўваюць думку толькі асобных – сяброў Вашага Грамадскага аб'яднання, што з'яўляецца недастатковым для прадстаўлення іх на экспертызу ў іншыя арганізацыі і ўстановы. Тым не менш адзначым, што праектамі не апісаны іх юрыдычны статус па-за рамкамі дзейнасці ТБМ; яны ўтрымліваюць у сабе неадпавядаючыя рэчаіснасці сцвярджэнні (напрыклад, "Пераважная большасць пасіўных носьбітаў беларускай мовы саромяцца карыстацца беларускай мовай"), а дакументам у цэлым не хапае той талерантнасці, аб якой ідзе гаворка ва ўводзінах у Стратэгію.

Паведамляем таксама, што МДУ імя А.А.Куляшова ніколі не заставаўся ў баку ад працэсаў пашырэння сферы ўжывання беларускай мовы ў вышэйшай адукацыі і не спыняў дзейнасці па яе развіцці ў грамадстве, якое існуе ва ўмовах білінгвізму.

Універсітэт мае ўласныя напрацоўкі ў гэтых напрамках і адкрыты для іх абмеркавання, як на заканадаўчым узроўні, так і ў навуковых, творчых і іншых аспектах.

**З павагай,**
**Рэктар А. М. Радзькоў.**



Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь
БРЭСЦКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ТЭХНІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ
вул. Маскоўская, 267, 224017, г. Брэст
тэл. 42 33 93, факс 42 21 27

001849

Министерство образования Республики Беларусь
БРЕСТСКИЙ ГОСУДАРСТВЕННЫЙ ТЕХНИЧЕСКИЙ УНИВЕРСИТЕТ
ул. Московская, 267, 224017, г. Брест
тел. 42 33 93, факс 42 21 27

24.05.2001 г. № 02/1172

**Сп. Алегу Трусаву**
**Старшыні Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны", вул.Румянцава, 13, 220005, г. Мінск**

Паважаны Алег Трусаў!

У Брэсцкім дзяржаўным тэхнічным універсітэце ўважліва азнаёміліся з праектам стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі. Мы падтрымліваем Вашы намаганні і жадаем Вам поспехаў у гэтай высакароднай справе.

У адпаведнасці з вучэбнымі планамі ўсе студэнты I курса дзённай і завочнай формаў навучання вывучаюць беларускую мову, як абавязковую дысцыпліну. Для тых студэнтаў, якія не вывучалі беларускую мову ў агульнаадукацыйнай школе ці прыехалі з другой мясцовасці, арганізавана факультатыўнае вывучанне беларускай мовы. На беларускай мове таксама вядзецца выкладанне "Гісторыі Беларусі". Ва універсітэце ёсць выкладчыкі, якія могуць выкладаць агульнаадукацыйныя і тэхнічныя дысцыпліны па-беларуску. Аднак адсутнасць падручнікаў і зацікаўленнасці з боку студэнтаў стрымлівае выкладанне на беларускай мове.

Набор студэнтаў у беларускамоўныя групы ў 2001/2002 навучальным годзе не плануецца.

**З павагай:**
**Рэктар Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага універсітэта У. Г. Фёдараў.**



ГАЛОЎНАЕ УПРАЎЛЕННЕ АДУКАЦЫІ І КАДРАЎ МІНІСТЭРСТВА СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І ХАРЧАВАННЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ АКАДЭМІЯ

ГЛАВНОЕ УПРАВЛЕНИЕ ОБРАЗОВАНИЯ И КАДРОВ МИНИСТЕРСТВА СЕЛЬСКОГО ХОЗЯЙСТВА И ПРОДОВОЛЬСТВИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
БЕЛОРУССКАЯ ГОСУДАРСТВЕННАЯ СЕЛЬСКОХОЗЯЙСТВЕННАЯ АКАДЕМИЯ

Тэлефон 2-29-49 Тэлетайп 102871 Тэлефакс (02233) 2-15-87

№ 518 "19" 06 200 г.
На № № 518 "19" 06. 2001 г. ______ 200 г.

**Старшыні ГА "Таварыства Беларускай мовы імя Ф. Скарыны" спадару Трусаву А.**

Паважаны Алег Анатольевіч!

У адказ на Ваш ліст ад 19.04.2001 г. паведамляем, што студэнты ўсіх спецыяльнасцяў Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі на першых курсах вывучаюць беларускую мову ў памеры 60 гадзін.

Акрамя таго, на беларускай мове выкладаюцца "Гісторыя Беларусі" на ўсіх спецыяльнасцях у памеры 80 гадзін; раздзел "Гісторыя культуры Беларусі" у курсе "Культуралогія", а таксама на асобных спецыяльнасцях выкладаецца "Беларусазнаўства".

Выкладчыкамі кафедры беларускай і рускай моў падрыхтавана і выдадзена Праграма для вышэйшых навучальных усатноў па курсе "Беларуская мова. Прафесійная лексіка" (Мінск: РІВШ, 2001г.) адпаведна адукацыйнаму стандарту па цыкле сацыяльна-гуманітарных дысцыплін.

Разам з тым, трэба адзначыць, што па аб'ектыўных прычынах, на жаль, адкрыццё беларускамоўных плыняў або груп пакуль што ў нас немагчыма.

Для далейшага пашырэння функцый беларускай мовы ў сферы навучання, на наш погляд, трэба больш увагі ўдзяляць распрацоўцы беларускай навуковай тэрміналогіі, выданню тэрміналагічных слоўнікаў і падручнікаў на беларускай мове.

**З павагай да Вас**
**Рэктар Акадэміі А. Р. Цыганаў.**
**Заг. кафедры беларускай і рускай моў Т. І. Скікевіч.**



Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь
Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі універсітэт
230015, г.Гродна, вул. М.Горкага, 80,
тэл. 33-03-65, 33-26-61, факс(0152) 33-53-41,
р/рахунак 3620000000126, Гродна, АКБ Беларусбанк, 752.
e-mail: mailbox@grsmi.unibel.by

Министерство здравоохранения Республики Беларусь
Гродненский государственный медицинский университет
230015, г. Гродно, ул. М. Горького, 80,
тел. 33-03-65, 33-26-61, факс (0152) 33-53-41,
р/счет № 3620000000126, Гродно, АКБ Беларусбанк, 752.
e-mail: mailbox@grsmi.unibel.by

19.06.2001 № 01-13/1008

19.06.2001 г. № 01-13/1008

**Паважаны спадар Трусаў.**

На Ваш запыт мы можам паведаміць наступнае.

Беларуская мова ў Гродзенскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце выкладаецца з 1991 года. Тады ж быў распрацаваны курс для асоб, што не вывучалі беларускую мову ў школе, тэрмінам на 2 гады. З 1997 года беларуская мова вывучаецца ўсімі студэнтамі 1-га курса ў аб'ёме 60 гадзін на год і як факультатыў – 72 гадзіны на год (для тых, хто не вывучаў мову ў сярэдняй школе і хто прыехаў з Расіі, Казахстана і г.д.). За апошнія дзесяць год нашымі выкладчыкамі створана некалькі падручнікаў і навукова-метадычных распрацовак на беларускай мове, кожны жадаючы, пры наяўнасці дастатковай моўнай падрыхтоўкі, можа весці свой прадмет на беларускай мове. І сёння гэта робіцца на кафедры агульнай біялогіі, гуманітарных навук. Шэраг студэнтаў і выкладчыкаў пішуць навуковыя працы па-беларуску. У бягучым годзе ў сценах нашага універсітэта створаны і надрукаваны "Руска-беларускі, беларуска-рускі слоўнік медыцынскіх тэрмінаў".

Што ж датычыцца стварэння беларускамоўных груп, то, пры наяўнасці жадаючых у іх вучыцца, мы маглі б падабраць выкладчыкаў, арганізаваць кароткатэрміновыя курсы па беларускай мове для іх, пачаць ствараць навукова-метадычную базу. Але на сённяшні дзень ні адной просьбы ад абітурыентаў і студэнтаў не паступала. Больш таго, згодна анкетавання, пры 98% асоб, што станоўча ацэньваюць неабходнасць ведання ўрачом беларускай мовы, ніводзін з апытаных не хацеў бы вывучаць спецыяльныя прадметы на беларускай мове (не адмаўляючы ў цэлым магчымасці існавання такіх груп). Мы, у сваю чаргу, лічым, што ТБМ, як зацікаўленая ў такім пытанні арганізацыя, разам з запытам у ВНУ павінна і падаваць лічбы жадаючых (хаця ж бы і ў сярэднім па краіне) вучыцца на беларускай мове на канкрэтных факультэтах і ў канкрэтных навучальных установах. Для гэтага дастаткова было б правесці анкетаванне сярод вучняў 11-ых класаў на пачатку навучальнага года.

**З павагай**
**Рэктар Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага універсітэта, прафесар П. В. Гарэлік.**

---

**Старшыні Менскага гарвыканкаму сп. Паўлаву**

**Паважаны Міхаіл Якаўлевіч!**

Звяртаемся да Вас з лістом падзякі калектыву кінатэатра "Змена" і яго дырэктару Ніне Міхайлаўне Макрыцкай за тую вялікую працу, што праводзіць гэтая установа культуры па выхаванні падрастаючага пакалення, прапагандзе беларускага кіно і нацыянальнай культуры ўвогуле.

Пра гэта мы ведаем не толькі з інфармацыі і артыкулаў у рэспубліканскім друку, але самі неаднаразова былі ўдзельнікамі творчых сустрэч з юнымі гледачамі. Кінатэатр адгукаецца на значныя даты ў культурным жыцці краіны. За апошнія гады тут прайшлі кінамерапрыемствы, прысвечаныя 200-годдзю Адама Міцкевіча, 200-годдзю Міхала Клеафаса Агінскага, 100-годдзю Марка Шагала, юбілеям Францішка Багушэвіча, Міхаіла Забэйды-Суміцкага, Максіма Лужаніна, іншых выбітных постацяў беларушчыны, вечарыны памяці Стэфані Станюты, Міколы Ермаловіча. У цэнтры кожнай імпрэзы стаіць фільм, дырэктарам кінатэатра наладжаны цесныя сувязі з кінастудыяй "Беларусьфільм", шырока выкарыстоўваецца значны кінематаграфічны набытак студыі "Летапіс", практычна не запатрабаванымі іншымі кінатэатрамі горада.

У дні беларускага пісьменства і друку ў кінатэатры "Змена" ладзяцца сустрэчы з рэдакцыямі дзіцячых выданняў: часопісаў "Вясёлка", "Бярозка", газет "Раніца і "Зорька". Усе мерапрыемствы праходзяць пры поўнай зале, атрымліваюць грамадскі розгалас. Калі абагульніць, можна адзначыць, што пры кінатэатры "Змена" стварыўся своеасаблівы клуб творчай інтэлігенцыі; дзе юныя гледачы маюць магчымасць не толькі паглядзець той ці іншы фільм, а і сустрэцца з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі Беларусі – кінаматаграфістамі, акторамі, тэатральнымі дзеячамі, пісьменнікамі, мастакамі, кампазітарамі, прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый. Такія знаёмствы маюць у душах нашых дзяцей і падлеткаў пачуццё патрыятызму, гордасці за сваю Айчыну, пашыраюць іх кругагляд, застаюцца ў памяці надоўга. Спадзяёмся на такія кантакты з глядацкай аудыторыяй кінатэатра "Змена" і надалей.

**У. Мароз, У. Ягоўдзік, А. Пісьмянкоў, А. Дудараў, А. Трусаў, М. Міхноўскі, У. Ліпскі...** *(усяго каля 20 подпісаў).*

---

***11 ліпеня ў 18.30 у кінатэатры "Змена" адбудзецца ўрачыстая імпрэза, прысвечаная 125-м угодкам з дня народзінаў Цёткі. Імпрэзу ладзяць Сакратарыят ТБМ і Менская гарадская арганізацыя ТБМ.***





# СУСТРЭЧА З РАДЗІМАЙ

## Сцэнар тэатралізаванага музычнага свята

*Сцэна ўпрыгожана нацыянальнымі сімвалами беларускага народа. Гучыць павольная музыка. У зале цёмна, на сцэне гараць свечкі. Выходзіць чалавек у нацыянальным касцюме, становіцца на калені перад запаленымі свечкамі і, ускінуўшы рукі ўверх, пачынае маліцца і прасіць Бога:*

-- Мой Усявышні, Магутны, Адзіны! Узыдзі над маёй любай зямлёю, выратуй яе з царства зла і нянавісці. Няхай заўсёды на гэтай зямлі пануе радасць, дабро, каханне і павага чалавека да чалавека.

Няма прыгажэй і мілей, чым гэта дарагая мне зямля! Я лячу ў думках над тваімі гонямі, палямі, лясамі. Мне хочацца стаць Анёлам, каб ахоўваць гэты любы і дарагі народ, яго ціхі нораў, яго непараўнальную прыгажосць.

Няхай Бог беражэ нас ад злых уздзеянняў нячыстых сіл, няхай падаруе кожнаму з нас моц і веру ў самае светлае і добрае жыццё.

Радзіма!.. Радзіма!.. Радзіма!... Я бачу цябе. Вунь ты далёка-далёка, з-пад самых нябёсаў спускаешся сюды, на нашу зямлю. Мая мілая і непаўторная Радзіма! Ты паднялася да Госпада, ты ўзнялася над усімі іншымі краінамі і народамі. Усявышні забраў твой Дух, ты стала Боскай сутнасцю – магутнай і непераможнай... Мяне апанавала незвычайная радасць. Я дару сябе сваёй адзінай Радзіме. Забяры мяне, мая каханая Бацькаўшчына! Мы разам з табой палягім да Бога. Я не магу без цябе. Не магу ні секунды, ні хвіліначкі... Калі ёсць ты, мая Беларусь, тады жыву і я. тады гарыць мая душа, у сэрцы запальваецца праменьчык святла і радасці. Ты – усё маё жыццё, мой лёс, мае знаходкі і пошукі, мае дасягненні і памылкі...

Радзіма!.. Радзіма!.. Радзіма!.. Толькі ты для нас усіх з'яўляешся самай найвялікшай і дарагой маці. Толькі ты нас любіш, аберагаеш, чаруеш.

Я люблю цябе, Беларусь!..

*(Гучыць беларускамоўная песня духоўнай скіраванасці).*

**1 вядовец:**

-- Узыходзіць сонца над нашай дарагой Беларуссю. Сонца незалежнасці, сонца дзяржаўнасці. Столькі часу даводзілася чакаць, калі ўрэшце прыйдзе дзень, у які мы будзем святкаваць сваю незалежнасць. І вось прыйшоў ён. Праўда, спатрэбілася шмат часу, каб дайсці да гэтай запаветнай мэты. Колькі слынных сыноў і дачок нашай Бацькаўшчыны прысвяцілі свае жыццё святому змаганню за нацыянальную ідэю.

**2 вядовец:**

-- Заўсёды чалавекам кіруе нейкая адпаведная ідэя. Бо без яе немагчыма нармальнае развіццё грамадства. Тады здаецца быццам усе мы ідзем у нікуды. Здаецца, і робім нешта, і да нечага імкнемся, але што гэта ўсё ў параўнанні з канкрэтнай задачай, якая пастаўлена перад людзьмі. А такой павінна стаць ідэя адраджэння нацыянальнай свядомасці беларускага народа, ідэя забеспячэння духоўнага росту нацыі, ідэя імкнення да высокай сутнасці нацыянальнай культуры.

**1 вядовец:**

-- Кожнаму дарагое тое месца, дзе ён нарадзіўся, спазнаў першыя радасці і нягоды. Для нас такой радасцю з'яўляецца наша адзіная Радзіма. Як нам не пранікнуцца любоўю і замілаваннем да яе прыроды, велічных гарадоў і ціхіх вёсачак, помнікаў архітэктуры. Вось што значыць наш родны куток. Тое, што засталося нам у спадчыну ад продкаў нашых, трэба бязмежна любіць і берагчы, бо, калі няма спадчыны, дык паступова, крок за крокам пачынае гінуць і тая зямля, з якой знікаюць спрадвечныя карані народнасці, звычаі і абрады.

**2 вядовец:**

-- А ў спадчыну засталося самае вялікае – любоў да свайго народа. Але ж каб яшчэ раз пераканацца ў велічы ўсяго роднага, блізкага, трэба сустрэцца з Радзімай, Можа, Вы спытаеце: "Як жа можна сустрэцца з тым, чаго немагчыма абняць чалавечымі рукамі? Бо Радзіма, па сваёй сутнасці, гэта такое вялікае паняцце, што нават вядомыя вучоныя, прызнаныя пісьменнікі і тыя іншы раз не могуць занадта грунтоўна даць азначэнне такому мілагучнаму слову: "Радзіма".

**1 вядовец:**

-- А тым больш сустрэча з ёй. Але самае дзіўнае і неверагоднае, пра што Вы можа і не здагадваецеся, гэта тое, што наша сустрэча з Радзімай адбудзецца сёння, на нашым свяце. Сёння ўсім яго ўдзельнікамі і гледачам прызначана сустрэча. Гэта спатканне нам прызначыў сам Бог. І спатканне гэта з нашай Радзімай. Ці не праўда, што, напэўна, мы ў сённяшні час самыя шчаслівыя? Ніхто яшчэ ніколі не бачыў саму Радзіму, нашу дарагую Бацькаўшчыну. А мы ўбачым.

**2 вядовец:**

-- А каб першая сустрэча ўдалася, трэба нам з Вамі звярнуцца да нябёсаў, каб Анёлы пачулі нашу просьбу і паслалі на сённяшняе наша свята самую жаданую госцю – нашу любую Бацькаўшчыну. Можа, яны пачуюць нашу просьбу і прышлюць яе разам з чароўнай песеннай мелодыяй ці з харэаграфічным майстэрствам беларускіх дзяўчат. А можа яна прыйдзе да нас у радках вершаў. Ці можа ў нечым позірку, такім закаханым і ўзнёслым, мы імгненна заўважым Радзіму.

*(Гучаць тры песні патрыятычнай накіраванасці).*

**1 вядовец:**

-- А неба свеціцца агнямі,
Якая побач прыгажосць.
І Беларусь-Радзіма з намі,
Наш самы мілы, добры госць.

**2 вядовец:**

-- Мы ўсе гісторыю вітаем
І незалежнасць нашых сноў.
І аб сваім чароўным краю
Спяваем песні зноў і зноў.

*(Гучыць песня патрыятычнай скіраванасці).*

*Пасля гэтага ўвазе гледачоў прапануецца тэатралізаванае прадстаўленне па матывах трылогіі Якуба Коласа "На ростанях". Асноўным яго сэнсам з'яўляецца паказаць сутнасць сапраўднага Беларуса ў вобразе Лабановіча, а таксама выпрацаваць у прысутных пачуццё патрыятызму і цікавасці да свята).*

**1 вядовец:**

-- Там сузор'і гараць,
Там пануе любоў.
Мне б Радзіму абняць,
Засланіць яе зноў.

**2 вядовец:**

-- Падарыць ёй пяшчоту,
Сваю радасць і смех.
Каб не неслі грымоты
Ёй забойствы і грэх.

*(Гучаць дзве песні вясёлай тэматыкі на фоне танцаў харэаграфічнага калектыву раённага Дома культуры).*

**1 вядовец:**

-- Нешта бачу я такое,
Чаго сэрцу не стае.
То Радзіма ў маіх мроях
Песціць веліччу мяне.

**2 вядовец:**

-- Гэта родная старонка
Мяне светам захлыне.
Як зірну на гэта звонку,
Радасць сэрца мне кране.

*(Гучыць эстрадная песня патрыятычнага кірунку).*

**1 вядовец:**

-- Мая ціхая і пяшчотная Радзіма... Калі цёплым летнім ранкам прачнешся і выйдзеш на двор, каб паглядзець узыход сонца, дык адразу адчуеш здаровае паветра і бадзёры настрой сваёй Бацькаўшчыне. Яна якраз у гэты час адыходзіць ад начнога сну і асцярожна пачынае ісці ў новы дзень па халоднай і роснай траўцы. Ці выйдзеш на бераг Сожа і ўбачыш павольную плынь рачной вады, якая міжволі нагадвае ціхае і скансалідаванае жыццё сваёй Бацькаўшчыны.

**2 вядучы:**

-- А калі нехта дорыць кветкі каханай, якая для гэтага чалавека ўвасабляе своеасаблівую маленькую радзіму кахання, дык ён у першую чаргу ўдзячны лёсу за тое, што, менавіта, тут спаткаў сваё шчасце. Значыць, Радзіма зрабіла яму каштоўны падарунак. Таму давайце будзем расціць самыя прыгожыя кветкі, каб імі ўпрыгожваць нашы прасторы, вуліцы, дамы, каб заўсёды Радзіма квітнела ва ўсмешках мільёнаў яе шчаслівых жыхароў. Давайце зараз абдымаем сваёй любоўю нашу дарагую Бацькаўшчыну.

*(Гучаць 3-4 песні ў выкананні салістаў раённага Дома культуры).*

**1 вядовец:**

-- Вобраз Радзімы заўсёды праходзіў белай ніткай у творчасці пісьменнікаў і паэтаў Беларусі.

**2 вядовец:**

-- Вось і зараз праз вершы *(называецца прозвішча)* Радзіма прыйдзе да нас і падорыць найвялікшую любоў і прызнанне.

**1 вядовец:**

-- Наша сустрэча адбылася. Сёння мы ўбачылі Радзіму. І такой прыгожай і непаўторнай, а таксама непараўнальна дарагой яна зноў паўстала перад нашымі вачыма.

**2 вядовец:**

-- На самой справе Бог падарыў тым людзям, што неслі сёння любоў да Радзімы ў сваіх творах, пачуццё Боскай адданасці і чуласці да святога і добрага – сваёй роднай старонкі.

**1 вядовец:**

-- Да новай сустрэчы, Радзіма,
Хай ў цэрквах шануюць цябе.

**2 вядовец:**

Каб і зло абыходзіла міма,
Каб смяялася ты і ў журбе!

*(На сцэну выходзяць усе ўдзельнікі свята і пад дружныя воплескі спяваюць песню "Мы славім сваю Беларусь").*

***Аўтар Станіслаў Хахлоў,***
***старшыня Чэрыкаўскай гарадской суполкі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, старшыня раённага клуба творчай інтэлігенцыі "Натхненне".***

## Калі б мы не беглі міма...

Мы не лічылі імгненні сустрэч, позіркі, поціскі рук, усмешкі, словы – хвіліны суразмоўя нашых сэрцаў. Ляцеў час, а мы забываліся на яго, а мы адкладвалі на потым нашы мары аб казках, аб пяшчоце, аб шчасці.

Губляліся найдаражэйшыя імгненні збліжэння душ, знітавання думак.

***Цябе не бачыла месяц,***
***А ўжо і вятох глядзіць...***
***А ў небе чакаў нас месяц,***
***Каб цені нашы вадзіць...***
***І маляваць нашы рухі,***
***Калі мы бярэмся за рукі,***
***І зоркі плывуць на збліжэнне...***
***Імгненне...***

Ці ўмеем праз яго, праз былое імгненне, убачыць сутнасць мімалётнасці?.. Мы пралятаем міма самага найкаштоўнейшага моманту – радасці існавання разам у Часе магчымай Любові, роднасці, Прыгажосці, дзе вочы ў вочы, сэрца – у сэрца, рука – у руку, думка – у думку, слова – у слова, святло – у святло, згода – у згоду...

***Калі б мы не беглі міма,***
***Не таяла б наша Радзіма,***
***Белая, як сняжынка...***
***Знайшлася б у нас хвілінка***
***Спытацца, у Пана Бога:***
***Дзе Святасці нашай дарога,***
***Дзе вечнасці нашай дарога?..***
***Трывога...***

А ці кожны, хоць бы дзесятым падсвядомым пачуццём, адчувае трывогу знікнення? Знікнення таго, што абазначана словам "роднае", "дарагое", "святое".

Калі два чалавекі неадрыўна глядзяць адзін аднаму ў вочы – паміж імі нараджаецца разуменне. Калі існуе прыцягненне, яно выклікае ўвагу, пытанне і згоду.

Ці ўглядаемся мы адзін аднаму ў душу? Колькі мы трымаемся на сувязным промні сёння? Якога колеру слова выходзіць на сувязь? Ці багата ў ім святла, любові, чысціні, праўды? І ці мае Слова Праўды прастору?

***Пусціце Слова ў прастору!..***
***Пра ісціну пагаворым,***
***Пра Час няўмольны, пра Нас,***
***Каб – ні пагроз, ні абраз,***
***Ні помсты злой, ні дакору...***
***Пусціце Слова ў прастору.***
***О, дайце Слову дыханне,***
***Каб стала Яно пытаннем,***
***Каб стала Яно адказам,***
***І памяццю, і паказам.***
***Збіце з Яго аковы.***
***Не бойцеся рэха Слова,***
***Вечна жывога рэха.***
***Пусціце!***
***Бойцеся грэху –***
***Яго трымаць у няволі***
***Ці ў нейкай халуйскай ролі.***
***Яму ж патрэбна дарога.***
***Яно было, перш, у Бога...***
***Пусціце Слова ў прастору,***
***Пра грэх наш сёння і ўчора,***
***Бо зла скапілася мора,***
***А дзе ж дабра вымярэнне?***
***Пусціце Слова ў прастору,***
***Якому імя – Сумленне!***

Мы яшчэ – ёсць. Хто просіць у Бога Веры і Надзеі, хто спадзяецца на сябе, на сваю выкрутлівасць, хто прагне ўлады, хто славы, хто зусім упаў, ляжыць галодны, без кавалка хлеба. І такіх ёсць.

І зноў: чым жа мне дапамагчы жабраку?.. Словам спачування, пажадання Шчасця ў Новым годзе, стагоддзі?..

***Чым жа я багата?***
***Шчырасцю?***
***Я зстаюся шчырай.***
***За шчырасць!***
***Ад яе – шляхі прамыя***
***Да лучнасці і светлых перамоў.***
***Усмешкі, словы – нашы пазыўныя,***
***За імі – лёгкасць, мудрасць і любоў.***
***Сваю душу надзеяй улагодзім***
***У рэчышчы спагады, дабрыні.***

***О новы год! У Новае стагоддзе***
***Вазьмі наш Дом***
***І Дом абарані.***

***Марыя Баравік.***

Язэп Палубятка

# АУРАЛЕСІЦА

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Затым другому сакратару райкама захацелася ў свой вольны час заняцца выхаваннем моладзі. Ён пазнаёміўся з мясцовымі рокерамі, доўга і блытана расказваў ім пра свае калгасныя справы, хваліўся веданнем тэхнікі, але ўсё ж, калі ён не выкруціў на "Яве" "васьмёрку", то хлопцы надавалі яму проста па шыі і наказалі, каб болей з такім глупствам не прыставаў да іх. Заяўляць у міліцыю Ваўчыцкі не стаў: было брыдка. Праўда, пра гэтае здарэнне назаўтра ведала не толькі міліцыя, але і ўвесь горад. Бацькі матацыклістаў са страху пахавалі пад замок дарагія цацкі сваіх дзетак.

Ваўчыцкі быў чалавек працавіты, у адносінах да людзей — шчыры, без усякіх там хітрыкаў. Тут, у райкаме партыі, у пашане былі іншыя чалавечыя якасці. Потым, праз некалькі гадоў ён зразумеў, што ўзялі яго сюды толькі з-за Зоркі Героя Сацыялістычнай Працы і ордэна Леніна. І таму іншы раз у час роспачы ён называў сябе: "Ардэнаносны шчыт адной гультайскай установы".

Ваўчыцкі ніяк не мог прывыкнуць да таго, што яму ўвесь час трэба было сядзець: ці то на нарадзе нейкай, ці то проста ў кабінеце. За першыя паўгода працы ён так насядзеў адно месца, што дома увесь час стаяў, чым вельмі нерваваў жонку. З цягам часу ён усё ж разабраўся, што кіраўнікі шматлікіх раённых устаноў звычайныя гультаі, хабарнікі і п'яніцы, але навесці сярод гэтай хеўры які-небудзь парадак яму не дазваляў Крыніца, які кожны раз павучальна гаварыў: "Людзей трэба выхоўваць, а не мяняць, як пальчаткі". Усе райкамаўскія апаратчыкі за вочы смяяліся над ім, а дырэктар райспажыўсаюзу пасля сутычкі перастаў вітацца і загадаў, каб у райкамаўскі буфет не завозілі мінеральную ваду, якую заўжды купляў Ваўчыцкі. (Мінералка садзейнічала рабоце страўніка і прытупляла боль). Потым дырэктару здалося мала, і ён зрабіў так, што ў адзін дзень мінералка знікла ва ўсіх магазінах горада і болей у раён яе не завозілі.

Праўда, сёння гэты самы дырэктар патэлефанаваў Ваўчыцкаму чамусьці на кватэру ў сем гадзін раніцы, ветліва прывітаўся, можа разоў дзесяць папрасіў прабачэння за тое, што патурбаваў у такі ранні час, распытаў пра здароўе і зноў папрасіў прабачэння, — на гэты раз за тое, што зранку ў райкамаўскім буфеце не будзе неабходнай Ваўчыцкаму мінеральнай вады і сказаў, што ён паслаў ужо машыну ў вобласць, якая да дзесяці гадзін раніцы вернецца назад і абавязкова прывязе — спецыяльна для яго, Ваўчыцкага, — пяць скрынак мінералкі.

Ваўчыцкі ўсё ж не паверыў у шчырасці дырэктара, а калі паклаў тэлефонную трубку на апарат, падумаў, што гэта чарговы жарт "мясцовага князька" пасля ўчарашняга перапою.

... Не ведала і наменклатурная сакратарка, пра каго вядзе гаворку таварыш Салавейчык. Яна пільна, выстаўляючы то адну, то другую нагу ўбок, разглядала сваю абнову — чорныя калготкі з малюнкам, які нельга пераказаць, а абавязкова трэба пабачыць — і старалася ўявіць, як мужчыны будуць глядзець на яе ногі ў гэтых калготках, калі яна выйдзе — вось так! — з мармуровага будынка райкаму, не спяшаючы, пройдзе плошчу і сядзе ў казённую белую "Волгу". На яе прынцыповую думку, такі кантраст павінен дзейнічаць выключна на яе карысць.

— Так-так, сябры мае! Я гавару пра Антона Пятровіча Крыніцу. Як не шкада, але гады бяруць сваё, і вам, маладым, працягваць яго светлы шлях.

— Як так, — загаманіла сакратарка і па-жаночаму артыстычна войкнула, нібы яе напаткала асабіста страшная бяда. Для яе сапраўды была неспадзяваная навіна, бо яна збіралася працаваць пад кіраўніцтвам Антона Пятровіча Крыніцы да таго часу, пакуль яе будуць кахаць мужчыны. — Ой! Што вы гаворыце? І што вы гаворыце! Ён такі малады! У яго столькі сілы! Я ж ведаю ... Скажыце, а хіба ёсць указанні?

— Ёсць! Вядома ёсць! — радасна адказаў Салавейчык задаволены тым, што яго зразумелі. — І таму неабходна зараз жа да абеду правесці пасяджэнне партыйнага бюро і абавязкова — пленум райкама. Вельмі хацелася, каб сёння адбыліся святочныя провады нашага шаноўнага Антона Пятровіча. Вы, Ніна Адамаўна, вельмі здольны арганізатар; вы, як ніхто іншы, умелі арганізаваць выезд на прыроду, і таму ў мяне да вас вялікая просьба: вазьміце ўсё пад уласны кантроль.

— Дзякуй! Шчыра вам дзякуй за давер.

— А? .. — не паспеў Ваўчыцкі прамовіць слова, як дзверы кабінета адчыніліся і ў пакой зайшоў дырэктар райспажыўсаюза, а за ім шафёр, які нёс поўную скрынку бутэлек з мінеральнай вадою.

Шафёр, які меў сваё ўяўленне пра этыкет і думаў, што сваім учынкам вельмі дагодзіць вялікаму начальству, паставіў скрынку на стол, затым паспешна сцягнуў з галавы скураную шафёрскую шапку і, спалохана адступаючы назад, выйшаў.

Салавейчык з прыкрай усмешкай паглядзеў на дырэктара і са злосцю прамовіў:

— Ну і ну! Гэты прахіндзей усё пранюхаў.

Дырэктар не адказаў Салавейчыку.

— Генадзь Андрэевіч! Вось, як я і абяцаў, — мінеральная вада ... Даставілі датэрмінова, раней абяцанага на дзесяць хвілін ... Пастараліся мы , праўда? ... Піце і не хварэйце! З сённяшняга дня лекавая вада будзе ў кожным магазіне горада заўжды і абавязкова на стале ў вашым кабінеце. Я ...

Салавейчык, які за сваю доўгую партыйную дзейнасць браў розны хабар і бачыў усякіх прахвостаў, не змог вытрымаць такога падхалімажу і абурыўся:

— А што тут гэты злодзей робіць?

— Яшчэ невядома, хто з нас большы злодзей, — спакойна адказаў дырэктар. — З нас дваіх — я самы чэсны чалавек на свеце.

— За такія словы я табе, гандляр, морду наб'ю! — закрычаў Салавейчык і рушыў да дырэктара.

**— Да пабачэння, Генадзь Андрэевіч!**

Дырэктар хуценька выйшаў з кабінета і не стаў уступаць у прамы кантакт з пенсіянерам, бо сапернік быў у іншай вагавай катэгорыі.

Ваўчыцкаму стала брыдка, і таму ён паспешна вярнуўся да былой гутаркі.

— А навошта такая спешка?

— Ёсць прычыны! Я пакуль што, Генадзь Андрэевіч, не буду перад вамі раскрываць усе карты.

— Дык можа давайце пойдзем да самога Антона Пятровіча і там усё абмяркуем ...

— Нельга! Антон Пятровіч зараз у бальніцы ... Час не чакае! За справу, арлы мае!

XI

Антаніна Якімчык прагла выканаць загад першага сакратара райкама партыі. Праз паўгадзіны яна вярнулася ў прыёмную галоўнага ўрача. Перад нянечкаю ў кабінет зайшла жанчына гадоў трыццаці пяці, ад якой пахла густым настоем парфумы.

Якімчык ведала, што загадчык аддзялення прынцыпова прыдзіраецца да яе, бо хоча выжыць адсюль і прызначыць на яе пасаду сваю цётку. Ведала, што ён абавязкова заўважыць яе адсутнасць і пачне шукаць па ўсёй лякарні, але яна, памылкова палічыўшы, што тая жанчына хутка закончыць сваю справу і выйдзе, усё ж вырашыла пачакаць. Жанчына, адна са шматлікіх былых каханак Сцяпана Сцяпанавіча Улановіча, пад час усё тых жа абставін — працяглай камандзіроўкі свайго мужа — вырашыла адмысловыя сустрэчы з былым каханым. Улановіч па характару быў чалавекам мяккім.

Ён не мог рэзка адмовіць жанчыне, не мог пакрыўдзіць, але пры гэтым ён быў чалавекам прынцыповым і не мог дазволіць сабе кахаць двойчы.

Размова паміж былымі каханымі была прыемнай і цягнулася доўга, але, тым не менш, кожны з іх заставаўся пры сваіх інтарэсах. Пры такім раскладзе пачуццяў пустая размова няведама калі скончылася б, каб за дзвярыма кабінета не пачуўся строгі голас загадчыка хірургічнага аддзялення.

— І зноў вы, Якімчык, тут. Марш на сваё рабочае месца. Перад тым, як кудынебудзь пайсці, запытайце ў мяне дазволу ці ў дзяжурнага доктара. Вам зразумела?

Праз імгненне Якімчык і след прастыў.

Жанчына, якая была на прыёме ў галоўнага ўрача, урэшце зразумела — каханне не вяртаецца; паднялася і, не развітваючыся, паспешна выйшла.

Усе, хто ведаў Антаніну Якімчык адносілі яе да людзей упартых, для якіх вялікая кітайская сцяна не перашкода. Яна заўжды дабівалася свайго нягледзячы ні на якія цяжкасці. Вось і сёння яна прайшлася па свайму роднаму аддзяленню і зноў вярнулася ў прыёмны пакой да галоўнага ўрача. З парога шэптам запытала ў сакратаркі:

— Мой чорт там ці пайшоў?

Дзяўчына паціснула плячыма і адказала:

— Не ведаю. Я выходзіла. Напэўна, пайшоў.

Чаргі ўжо не было і нянечка рашуча пашыбавала ў кабінет да галоўнага ўрача, каб, урэшце, выканаць ускладзены на яе пачэсны абавязак. Яна адчыніла дзверы насцеж — пусты пакой, толькі ў куце за шафай чулася шарканне паперы і чаўканне. Антаніна Якімчык нясмела запытала:

— Ёсць хто-небудзь?

З-за шафы высунулася галава галоўнага ўрача, які выціраў хустачкай губы і паспешна нешта глытаў.

— Мы-ы-ы .., - пачулася ў адказ.

**У гэты момант адтуль жа паказалася** і галава загадчыка хірургічаскага аддзялення.

— Калі ўжо ты будзеш на сваім рабочым месцы? — закрычаў загадчык, бо лічыў, што жанчына прыйшла скардзіцца на яго да галоўнага.

Улановіч піхнуў локцем свайго падначаленага і той хуценька схаваўся за шафай, каб дажаваць тое, чым быў напіханы рот.

— Слухаю вас? — стрымліваючы злосць, спытаў Сцяпан Сцяпанавіч.

— Мяне да вас паслаў Крыніца.

Улановіч з жахам успомніў, аб чым прасіў яго першы сакратар.

— Так.

— Ён прасіў вас, каб вы тэрмінова зайшлі да яго.

Зайсці да Крыніцы, калі ты не выканаў яго пажадання — самагубства. Аб гэтым ведалі кіраўнікі ўсіх раённых устаноў.

Улановіч, як галоўны ўрач райбальніцы, вельмі часта выступаў у раённым друку, дзе кожны раз яскрава даказваў усім, што алкаголь запавольвае рэакцыю чалавека, але сваімі паводзінамі ён катэгарычна абвяргаў сам сябе. Так было і на гэты раз. Ён не на жарт разззлаваўся: расчырванеўся і затросся, як асіна пры лёгкім подыху ветра.

— Шкоднік! Астапчык — шкоднік! Выганю, каб нагі яго не было тут. Выганю! — з гэтымі словамі Улановіч выбег з кабінета.

З-за шафы, з свайго сховішча выйшаў загадчык хірургічнага аддзялення. Ён ужо ўсё пераждаў, а заадно паслухаў размову ды зразумеў, чаго яго падначаленая так імкнулася ў гэты кабінет, і дыпламатычна, нібы падводзячы вынікі вялікай, вострай і прынцыповай дыскусіі, згладжваючы вострыя вуглы супярэчнасцяў, збліжаючы супроцьлеглыя пункты гледжання, даволі строга і павучальна сказаў:

— Па такіх пытаннях, таварыш Якімчык, няма патрэбы пільнавацца чаргі. Зразумела вам?

Нянечка Антаніна Якімчык зразумела ўсё на свой лад: павярнулася і, не спяшаючыся, пайшла туды, куды яе так доўга і настойліва пасылала начальства.

— Каб дагадзіць вам, трэба прафесарам быць.

XII

Сяргей Астапчык палічыў катэгарычную непрымірымасць сваёй жонкі за звычайную жаночую дурніцу і, поўны самых вялікіх надзей ды неабсяжных спадзяванняў, вярнуўся ў кабінет, дастаў з шуфляды неабходныя паперы, паклаў іх на стол і сказаў медыцынскай сястры, каб яна выклікала наступнага хворага.

Адразу ў дзвярах адбылася сумятня, пачуўся шум і гам, які характэрны для ўсіх нашых лякарняў.

— Не трымай! Не трымай! — малады чалавек з атлетычнай фігурай стрымліваў натоўп хворых і сам ірваўся ў пакой да хірурга. — Гад, адстань! Ну, што лапы цягнеш, калека? Зараз, як дам, дык ногі выцягнеш, чорт гарбаты.

Маладосць — сіла і спрыт — у гэтым паядынку атрымала ўпэўненую перамогу на шматдасведчаным хворым інвалідам. Спарцмен некалькі разоў рэзка тузануў плячом. Хворыя разляцеліся ва ўсе бакі, як мухі. Пасля ён спакойна зачыніў дзверы за сабою і бадзёра пакрочыў да стала, трымаючы ў руках вялізны стос амбулаторных картак.

— Слухаю, — доктар узяў ручку і падрыхтаваўся пісаць. Асноўны яго абавязак — апісаць прыкметы хваробы наведвальніка. (Лячыць, як Бог дасць!) На той занятак доктару адводзілася вельмі мала часу ( для лячэння яшчэ менш ), але **больш практычныя калегі паспявалі і за гэты** час даведацца ад пацыента, што можна з яго ўзяць. Астапчык не меў такога прызвання, за што яго вельмі ганьбіла жонка.

— Доктар, падпішы.

— Што я павінен падпісаць?

— Амбулаторныя карткі падпішы нам.

— Для чаго падпісаць і каму гэта — нам.

— Разумееце, доктар! Мы сёння праходзілі медагляд. Уся наша "фірма" тут...

— Нічога не разумею. Якая такая "фірма" і хто гэта "мы"? Я бачу вас толькі аднаго.

— Ой, доктар, які вы не здагадлівы!... Усё ж так проста. У перасоўнай механізаванай калоне нумар сто адзін сягоння па графіку медыцынскі агляд. Вось усе мы прыйшлі да вас, каб вы падпісалі нам гэтыя паперкі. Усё тут вельмі проста: тут пішаце — "здароў", а вось тут чыркаеце свой подпіс.

— Я не верабей, каб чыркаць. Я чалавек і ...

— І гэта гучыць горда... — спарцмен быў хлопцам з гумарам.

— І як доктар, вядома, я ведаю, што мне рабіць. Дайце мне сваю амбулаторную картку і распранайцеся.

— Доктар! Я здаровы, як бык. За той час, што ты будзеш са мною валэндацца, пагладзіў бы па грудзях якую-небудзь маладую дзяўчыну. Ты з мордачкі нічога сабе. Яны, напэўна, да цябе ліпнуць.

— Вы думаеце, што гаворыце?

Тут у іх спрэчку ўмяшалася медыцынская сястра, якая ў гэтай гутарцы любіла спалучаць прастанародныя выразы з навуковаю медыцынскай тэрміналогіяй.

— Што яго глядзець?! Гэтага буйвала хоць зараз у плуг запрагай. З пункту гледжання хірургіі ён здаровы, але калі ён — гэты малады чалавек — скруціць сабе галаву, то яго абавязкова прывязуць да вас, каб вы паставілі яе на месца

Доктар моўчкі паглядзеў на медсястру і напісаў у амбулаторную картку спарцмена "здароў" і "чыркнуў" свой подпіс.

— Астатнія таксама падпішы.

— Наступны.

— Ды паглядзі, што там робіцца.

*(Працяг у наступным нумары.)*



# Кніжныя музеі свету

Традыцыя паказу кніг у якасці музейных экспанатаў узыходзіць яшчэ ад часоў Сярэднявечча. Асобныя рарытэты дэманстраваліся ў манастырскіх сярэднявечных бібліятэках. У сучасным выглядзе музей узнік на аснове прыватных збораў у перыяд Адраджэння ў Італіі, а атрымаў развіццё ў большай часцы Еўропы ў перыяд Асветніцтва. З першых часоў развіцця музейнай справы ў Еўропе кніга становіцца адным з асноўных прадметаў збіральніцтва і экспанавання. У буйных кунсткамерах і вундэркамерах побач з мастацкімі, прыродазнаўчымі і этнаграфічнымі калекцыямі ствараюцца кнігазборы, што ўключаюць старыя кнігі, рэдкія кнігі, а таксама прыгожа, багата аформленыя кнігі. Калекцыі асабліва каштоўных кніг выдзяляюцца і ў межах збораў бібліятэк.

У XVIII – XIX ст.ст. пад уплывам дыферэнцыяцыі навук адбываецца профільная спецыялізацыя музеяў. Кніжныя калекцыі пераходзяць часткова ў гістарычныя, мастацкія, літаратурныя і інш. музеі, а часткова – у бібліятэкі. Менавіта ў бібліятэках упершыню ўзнікаюць музеі, профіль якіх можна вызначыць як кнігазнаўчы. Зараз іх задача заключаецца не толькі ў тым, каб здзівіць наведвальніка, уразіць багаццем кніжных калекцыяў, але і ў тым, каб прадставіць кнігу як з'яву культуры, што мае сваю гісторыю. Сістэматычна бібліятэкі Заходняй Еўропы пачалі экспанаваць кнігі з другой паловы XIX ст., калі кнігасховішчы былі ўпершыню адасоблены ад чытальных залаў.

Прыкладна ў гэты час на базе старых друкарняў, папяровых млыноў, дамоў выдаўцоў і г. д. пачынаюць ствараца музеі, прысвечаныя асобным аспектам гісторыі кніжнай справы. У свеце створана больш за 100 спецыялізаваных музеяў па асобных галінах кніжнай справы, што функцыянуюць, як самастойна, так і ў якасці асобных падраздзяленняў музеяў больш шырокага профілю. Гэта музеі выдавецкай справы, музеі кнігадрукавання і паліграфічнай тэхнікі, музеі паперы і паперавырабляльнай тэхнікі, музеі пераплёту, музеі шрыфту і інш.

Музеі кнігі адрозніваюцца ад вышэй пералічаных спецыялізаваных музеяў комплексным і шматаспектным падыходам да экспанавання кнігі. Музей кнігі прадстаўляе кнігу як складаную шматаспектную з'яву: як важны сродак інфармацыі, распаўсюджвання ведаў, адукацыі і выхавання, як прадмет матэрыяльнай культуры, цесна звязаны з развіццём навукі і тэхнікі ў тую ці іншую эпоху, і як твор мастацтва. Музеяў кнігі, што дасягаюць у сваёй экспазіцыі неабходнай шматграннасці паказу кнігі (як прадмета духоўнай і матэрыяльнай культуры), у свеце не так і шмат, каля дзесяці.

Старэйшы музей кнігі ў свеце – Нямецкі музей кнігі і пісьменнасці – быў адчынены ў Ляйпцыгу ў ліпені 1885 года пад назваю "Музей паліграфічнай вытворчасці". Першапачаткова музей размяшчаўся ў вялікай зале Кнігагандлёвай біржы, а зараз з'яўляецца аддзелам Нямецкай бібліятэкі. Заснавальнікам музея было "Цэнтральнае таварыства паліграфічнай вытворчасці", заснаванае ў Ляйпцыгу ў кастрычніку 1884 года. У Статуце Таварыства прадугледжвалася стварэнне музея з спецыяльнаю бібліятэкаю і чытальнай залай. У аснову калекцый музея быў пакладзены кнігазбор, набыты саксонскім урадам ў бібліяфіла і выдаўца Генрыха Клема (1818-1886). Кнігазбор Клема налічваў 5000 тамоў рукапісаў і друкаваных кніг, у ліку якіх 750 інкунабулаў. Далей музей набываў іншыя цікавыя калекцыі і папаўняўся рукапісамі, стардрукамі, ілюстраванымі кнігамі, выданнямі з экслібрысамі і інш., а таксама дакументамі і матэрыяламі, што тычыліся гісторыі кнігі і кнігадрукавання.

У 1907 годзе адбылася выстава пераплётаў XV-XIX ст.ст., сабраных зубным доктарам Бэхерам – і гэта калекцыя пазней увайшла ў фонды музея. У 1914 годзе музей набыў калекцыю А. Шапмайера – 334 выробленыя уручную копіі мініяцюр знакамітых помнікаў рукапісання розных краінаў Еўропы. У тым жа годзе ў фонды паступілі выданні, што дэманстраваліся тады ў Ляйпцыгу на Міжнароднай выставе кніжнай справы і графікі. У 1964 годзе з Грайца ў Ляйпцыг былі перавезены "Музей паперы", які стаў складавой часткаю ляйпцыгскага музея. Музей кнігі і пісьменнасці ўзначальвалі вядомыя кнігазнаўцы. Альберт Шрам (быў дырэктарам музея 1912-1930 г.г. і садзейнічаў даследчыцкай дзейнасці музея ў галіне гісторыі кнігі, удзельнічаў у буйных выдавецкіх праектах, звязаных з гісторыяй кніжнай справы, у прыватнасці, у складанні "Зводнага каталогу інкунабулаў"; А. Шрам падрыхтаваў да друку шматтомнае выданне "Мастацкае ўбранне інкунабулаў", дзе былі факсімільна ўзноўлены фігурныя гравюры і арнаментыка кніг, выдадзеных у Нямеччыне ў другой палове XV ст.), Ханс Боквіц (кіраваў музеем на працягу 1930-1954 гг. і доўгі час быў кіраўніком Ляйпцыгскай школы бібліятэказнаўства), Фрыц Функэ – аўтар вядомай працы "Кнігазнаўства" і інш. Фонды музея кнігі і пісьменнасці ў Ляйпцыгу складаюцца з калекцыяў рукапісаў, інкунабулаў, стардрукаў, рэдкіх выданняў XIX-XX ст.ст., арыгінальнай графікі, бібліяфільскіх выданняў, антыкварных выданняў, добра аформленых выданняў, калекцыяў паперы, філіграняў і шрыфтоў. Музей уключае друкарскае абсталяванне (напрыклад, дэманструецца макет старажытнай друкарні І. Гутэнберга, ручны драўляны станок пач. XVIII ст.), а таксама фотакарткі, архіўныя дакументы і інш.

У Нямеччыне існуе не адзін музей кнігі. У Майнцы, родным горадзе І. Гутэнберга, у 1900 г. быў створаны "Музей Гутэнберга горада Майнца. Сусветны музей друкарскага мастацтва", што функцыянуе самастойна. Экспазіцыя музея комплексна знаёміць з сусветнай гісторыяй кнігі і расказвае пра гісторыю асобных друкарняў, развіццё шрыфту, літаграфіі, пераплёту, паперы, гісторыю тэхнікі кнігадрукавання і сучаснай паліграфіі. Дэманструюцца рэканструяваная дзейсная друкарня І. Гутэнберга, японская майстэрня па выбару паперы і інш. Фонды музея налічваюць каля 2500 інкунабулаў, вялікія калекцыі экслібрысаў, гравюраў, плакатаў і інш. Асобная мемарыяльная экспазіцыя прысвячаецца І. Гутэнбергу.

У 1935 г. у Дрэздане быў створаны Музей кнігі пры бібліятэцы Зямлі Саксоніі, у 1953 – "Музей Клінгшпора горада Офэнбаха на Майне. Музей міжнароднага сучаснага мастацтва кнігі і шрыфту". Экспазіцыя дрэзданскага музея паказвае кнігу на фоне гісторыі развіцця грамадства. Асобныя раздзелы экспазіцыі паказваюць кнігу пэўнай эпохі паралельна з паказам развіцця музыкі ў тую ж эпоху, мастацтва кнігі – з развіццём мастацтва ўвогуле. Дэманструюцца мапы і віды старажытных гарадоў, пераплёты Якаба Краўзэ і інш. Офэнбахскі музей спыняецца на кнізе дастаткова вузкага храналагічнага перыяду (з 1890 г. і да сучаснасці) і робіць акцэнт на мастацтва кнігі і шрыфту. Фонды музея складаюць кнігі і ўзоры шрыфтавога мастацтва з калекцыі ўладальнікаў майстэрні па адліўцы шрыфтоў "Клінгшпор" і В. Клінгшпораў, калекцыі шрыфтоў найбольш значных славалітняў Нямеччыны, ілюстраваных кніг, арыгінальнай кніжнай графікі, вокладак, пераплётаў і інш. нягледзячы на храналагічную і тэматычную звужанасць музей Клінгшпора аднесены да музеяў кнігі, бо шматаспектна паказвае гісторыю кнігі.

Калі ў Нямеччыне у перыяд з 1885 па 1953 гады былі адкрыты чатыры музеі кнігі, то ў іншых краінах Еўропы музеі кнігі пачалі ствараццца толькі ў другой палове XX стагоддзя. Сярод найбольш вядомых музеяў кнігі: Музей кнігі пры бібліятэцы Нацыянальнага музея ў Празе (дата стварэння 1957 год), "Музей кнігі. Музей кнігадрукавання" ў Брусэлі пры Каралеўскай бібліятэцы Альберта І (1970), Музей кнігі пры Брытанскай бібліятэцы ў Лондане (1973), Музей кнігі і кнігадрукавання ў Кіеве (1975), Музей кнігі пры Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы ў Маскве (1983) і інш.

Музей кнігі ў Празе выкарыстоўвае фонды бібліятэкі Нацыянальнага музея і спецыялізаваны фонд Музея – друкарскае абсталяванне, архівы мастакоў кнігі, кнігавыдаўцоў і друкароў. Экспазіцыя музея расказвае пра гісторыю нацыянальнай кнігі і бібліятэчнай справы ў кантэксце сусветнай гісторыі кнігі. Музеі кнігі і кнігадрукавання ў Брусэлі выкарыстоўваюць багатыя фонды Каралеўскай бібліятэцы Альберта І і знаёмяць з гісторыяй рукапіснай і друкаванай кнігі з VIII ст. і з асноўнымі этапамі развіцця кнігадрукавання. Брытанскі Музей кнігі размяшчаецца ў галерэях Брытанскага музея і выкарыстоўвае фонды Брытанскай бібліятэкі. Расказвае пра сусветную гісторыю кнігі ў сацыяльным, тэхнічным і мастацкім аспектах з старажытных часоў да сучаснасці.

Украінскі Музей кнігі і кнігадрукавання размешчаны ў былой друкарні Кіева-Пячэрскай лаўры (XVIII-XIX стст.). Экспазіцыя музея шматаспектна прадстаўляе украінскую кнігу і кнігадрукаванне ад іх узнікнення і да нашых дзён. Фонды музея ўключаюць кнігі, кніжную графіку, фотакарткі, скульптуру, жывапіс, друкарскую тэхніку і інш. Дэманструецца друкарскі станок XVII ст., арыгіналы гравіравальных дошак XVII-XVIII стст., літаграфскі станок XIX ст., узоры ліцер для ручнога набору і інш. Музей кнігі ў Маскве адкрыты пры Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы і расказвае пра развіццё кнігі і кнігадрукавання ў свеце. Экспануюцца кнігі, гравюры, мастацкія альбомы, макеты друкарскага станка XVI-XVII ст.ст., матрыцы, ліцеры, інструменты для выбару гравюраў на дрэве і метале і інш. цэнтральнае месца ў музеі прысвечана дзейнасці І. Фёдарава.

У 1990 г. у Полацку, родным горадзе заснавальніка ўсходнеславянскага кнігадрукавання Ф. Скарыны, быў адчынены Музей беларускага кнігадрукавання. Экспазіцыя музея знаходзіцца ў будынку жылых келій былога Богаяўленскага манастыра – помніка архітэктуры XVIII ст. Экспазіцыя знаёміць наведвальнікаў з гісторыяй развіцця пісьменнасці і кнігі. Галоўная частка экспазіцыі адведзена расказу пра жыццё і дзейнасць Ф. Скарыны. У факсіміле паказаны выдадзеныя ім кнігі, а таксама шырока прадстаўлена Скарыніяна. Дэманструюцца рэканструяваныя майстэрня перапісчыка кніг XVI-XVIII ст.ст., друкарня XVI-XVIII ст.ст., сучасная майстэрня мастака-графіка, а таксама прадметы быту, прылады працы, што звязаны з вырабам кнігі, творы жывапісу і графікі і г.д.

Большасць музеяў кнігі існуе пры буйных бібліятэках і выкарыстоўвае фонды бібліятэк для стварэння музейных экспазіцыяў. Аднак нават самая вялікая кніжная калекцыя сама па сабе не можа даць уяўленне пра кнігу. Таму ў музеях кнігі шырока выкарыстоўваюцца і някніжныя матэрыялы. Наяўнасць у экспазіцыях някніжных экспанатаў падцвярджвае комплексны характар паказа кнігі ў музеі кнігі.

Плануецца стварэнне Музея кнігі і ў Менску. Музей кнігі будзе функцыянаваць у структуры аддзела рукапісаў, стардрукаў і рэдкіх кніг Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і размесціцца ў будынку XIX ст. у Верхнім горадзе. Музей кнігі не толькі дасць магчымасць весці прапаганду багатых кніжных фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, але і праводзіць шырокую адукацыйна-асветніцкую і навукова-даследніцкую дзейнасць. Кніга ў экспазіцыі будзе прадстаўлена шматпланава. Плануецца паказаць развіццё беларускай кнігі як неад'емнай часткі гісторыі еўрапейскай кнігі.

Мэта музеяў кнігі – паказаць кнігу ў яе гістарычным развіцці. Нягледзячы на агульнасць мэты кожны музей кнігі непаўторны. І гэта зразумела. Стваральнікі кожнага музея ставяць перад сабою свае задачы і абапіраюцца на свае ўнікальныя фонды. Кожны музей толькі ўзбагачае і дапаўняе адзін аднаго, уносіць свой уклад у расказ пра сусветную гісторыю кнігі.

*Таццяна Сапега,*
*аспірантка Беларускага універсітэта культуры,*
*г. Менск.*



**Кроніка Шэдаля Гартмана, надрукаваная ў 1493 годзе, нямецкамоўны варыянт. У кнізе 1800 гравюр. Захоўваецца ў цэнтральнай навуковай бібліятэцы Акадэміі навук Беларусі. Фота Генадзя Сямёнава, БелТА.**

Рок-падзея

## Кірунак – "Басовішча"!

Хоць у Беларусі праводзіцца шмат розных рок-фэстаў ("Belarusification", "Рок-маневры" і г.д.) усе яны не могуць і да пояса дастаць ўзроўню беластоцкага "Басовішча", які ладзіцца Беларускім аб'яднаннем студэнтаў у Польшчы (БАС) пры дапамозе польскіх урадавых структур і органаў.

Гэта тлумачыцца і вольнай атмасферай польскай рэчаіснасці, і шырокай вядомасцю сярод беластоцкіх беларусаў айчыннай музыкі, значным асвятленнем польскімі медыямі фестывальных канцэртаў... Чаго у сённяшняй Беларусі не можа быць у прынцыпе!

Удзельнікі канцэртаў "Басовішча" – рок-гурты з Беларусі, беластоцкія беларускія і польскія каманды, знакамітыя госці з Еўропы. Таму узровень фэсту год ад году безупынна ўзрастае, як узрастаюць патрабаванні, у першую чаргу, да гуртоў, што прадстаўляюць менавіта рок-музыку з Беларусі.

Новыя патрабаванні новага "Басовішча" прывялі да стварэння прадстаўніцтва фэсту непасрэдна ў Беларусі. Гэтую справу на сябе ўзваліла неўрымслівая моладзевая ініцыятыва БМА-груп, якая і ладзіла сумесна з БАСам у мінскім клубе "Тунэль" адборачны тур да сёлетняга "Басовішча". Карацей, маленькую рок-алімпіяду для тутэйшых беларускамоўных каманд.

Два напружаных канцэртныя дні прадставілі ўзоры творчасці 26 менскіх і рэгіянальных гуртоў, а таксама гасцей тура – гуртоў "Zet" і "Postscriptum". Гэта дало падставу для роздуму, параўнанняў і нейкіх абагульненняў. З некаторымі хочацца і пазнаёміць чытачоў, сярод якіх немала прыхільнікаў беларускага року.

Абагульненне першага. Сярод беларускамоўных калектываў узрастае нежартоўная канкурэнцыя. А гэта ёсць станоўчы сімтом: канкурэнцыя стымулюе творчую думку, абуджае жаданне ствараць арыгінальную і якасную музыку, павышаць свой выканаўчы ўзровень.

Тэндэнцыя другая. Як і любое творчае пачынанне, "Басовішча", як і ўвесь беларускі рок-рух, пачало "абрастаць" кан'юктуршчыкамі, якія імкнуцца прыдбаць сабе нейкія даброты (удзел у фэсце, магчымасць запісу і г.д.), заспяваўшы па-беларуску. Але мы не будзем іх жорстка крытыкаваць: практыка паказвае, што любоў да беларушчыны можа абудзіцца і ўзнікнуць і на такой глебе!

Абагульненне трэцяе: да беларушчыны праз рок ідуць і маладыя слухачы, і маладыя музыканты. Іншага шляху ў іх, пры адсутнасці нацыянальнай сістэмы адукацыі, відавочна не прадбачыцца. Таму прыглядзімся да пачатку творчага шляха самых маладых – горацкага "Сьцяга", жодзінскага "Мэтро", менскіх каманд "Мэры Лонг", "Нова", "Анархасіса" са Століна, "Homo Errectus" з Гомеля, менскіх кадэтаў з гурта "Квінтус Брум"...

І добра, што маладым выканаўцам ёсць на што арыентавацца ў творчым плане. На той жа пляцоўцы, дзе адбываўся адборачны тур да "Басовішча-01", яны маглі пабачыць некаторых лідараў беларускай рок-сцэны: гурты "Зьніч", "Імпэтт", "Aquamorta", "Exist". А таксама на свае вочы пабачыць легендарных гасцей – гурты "Postscriptum" і "Zet" і іх знакамітых прыхільнікаў, сярод якіх, дарэчы, быў і магчымы кандыдат у прэзідэнты Сямён Домаш...

Нажаль, як і на любым іншым творчым спаборніцтве, і тут не абышлося без прыкрых недарэчнасцяў. У гэтым годзе яны закранулі вядомых гарадзенскіх выканаўцаў: "Твар", "Pet Nihil", "СРК" (былы "Кальян"), якія прадстаўлялі андэграўндную субкультуру з берагоў Нёмана. Ніхто з іх сёлета не трапіў на "Басовішча". І гэта пры тым, што кожны сябар журы, калі яго запытаць, выстаўляў самую высокую адзнаку гарадзенцам!

Такі ж лёс напаткаў і іншых дэбютантаў: гурты "Сцяна" (Берасце), "The Ravens" (Менск), "ВМН" (Салігорск), і нават пазамінулагодняга ўладальніка Гран-пры гурт "Exist", што зараз выступае з новым вакалістам Харлі...

Але, як запэўніваюць музыкаў прадстаўнікі БМА-груп, гэтыя калектывы будуць жаданымі гасцямі на імпрэзах Беларускай музычнай альтэрнатывы. Так, што сябры, не трацьце надзеі!

Ну а права сёлета прадстаўляць музыку маладой Беларусі на фэсце "Басовішча" на Беласточчыне заваявалі наступныя каманды: "БН" (Бяроза), "Бан Жвірба" (Гомель), "Імпэт" (Менск), "Цмокі" (Менск), "Голая Манашка" (Менск), праект "Splenetic" і Алесь Таболіч (Менск), "Aquamorta" (Менск), "Зьніч" (Менск), "Happy Face" (Маладзечна), "Галіна бэзу" (Менск-Пінск).

Тым часам, БМА-груп ужо абвесціла збор дэмазапісаў маладых беларускамоўных каманд для ўдзелу ў адборачным туры да "Басовішча – 2002". Усю патрэбную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне 227-51-09, пэйджар 211-85-85, абанент БМА, ці па адрасе: а/с 5, Менск, Беларусь.

*Анатоль Мяльгуй, супольнік журы.*

Хочаш вер, хочаш не вер

## Першае пасланне "Zet" дайшло да зямлян!

Цмяная гісторыя ўзнікнення аднаго з самых засакрэчаных нашых рок-праектаў – вакальна-інструментальнага аддзелу /BIA/ "Zet" апошнім часам становіцца прадметам дасканальнага вывучэння. Слухачоў і музычных крытыкаў цікавіць, адкуль прыбылі гэтыя таленавітыя выканаўцы, што хаваюцца за таямнічымі маскамі.

Па адных крыніцах яны – вынік часова-прасторавай мутацыі папулярнага хіпарскага гурта 70-х гадоў, па другой версіі, якой прытрымліваецца, напрыклад, музычны журналіст В. Мартыненка, удзельнікі гурта "Zet" – нашчадкі беларусаў, што калісьці былі вымушаны з'ехаць у далекую Сібір і якіх паклікалі гены на гістарычную Радзіму. Але тады навошта хавацца пад маскамі, якія, дарэчы, сталі візітоўкамі "Zet"!

Гэтыя ды іншыя пытанні прывялі мяне ў рэпетыцыйную схованку, дзе месціцца зараз знакаміты вакальна-інструментальны аддзел. На маю прапанову прадстаць перад грамадскасцю ў сваім натуральным выглядзе "зэты" адгукнілася на гэта ахвотна і з нечалавечым пачуццем гумару. І калі Канцлер, Стронг, Акрабат і Портэр (такія ў іх аказаліся імёны) сцягнулі свае па-"алмазаўску" жахлівыя маскі, то я зразумеў, што адчувалі тыя, хто ўпершыню ўбачыў чалавечыя абліччы ўдзельнікаў гурта "Kiss"! Бо перад маімі вачамі паўсталі каржакаватыя постаці пілотаў UFO – караблёў, падобныя ці то на знакамітага касмічнага хулігана Альфа ці то на зорнага ваяку R2-D2.

Калі прайшоў першы шок ад убачанага, вырашыў паразмаўляць з новымі беларускімі грамадзянамі пра іх музыку. Чаму на іх першым дыску, што ўжо трапіў у продаж і да слухачоў, няма звычайных электронных фантазій, характэрных для касмічных прыхадняў, а паўсюдна рэжа слых нешта паміж постгранжам ды трэшкорам, а вакал больш падобны на рыканне параненага андроіда...

Аказалася, што калі UFO-пілоты "Zet" упершыню апынуліся на тэрыторыі Беларусі, яны траплі ў лапы злосных БПСМамаў, якія жорстка катавалі прышэльцаў "Лепрыконсамі", "Тяни-толкаем". Пасля такіх жудасных выпрабаванняў на Зямлі ім нічога не заставалася як здабыць сабе волю з дапамогай тэлепартацыі...

Так нялёгкія шляхі міжгалактычных падарожнікаў прывялі іх на іншы сілавы полюс – у штаб-кватэру "Маладога фронту", дзе яны наслухаўшыся N.R.M., захапіліся беларускім рокам і стварылі свой рокавы аддзел "Zet". Пачалі вывучаць (у піку тутэйшым доўбням) беларускую мову з фразы: "Радзіма, свабода..." Потым на гэты слоган склалі песню, што ўвайшла ў іх першы дыск, названы па-альфацэнтаўрыйску без прэтэнзій: "З новым годам!".

Нашыя UFO- героі стварылі для яго яшчэ некалькі твораў: "Гэй, славяне!" (паводле тэлесерыялу жахаў "Тайныя спрунжыны палітыкі"), песні "Танец смерці" (пра тутэйшы алкагольны брэнд "Крыжачок"), "Баю-баю" – пра любімую ўсімі "зэтамі" "Калыханку", а таксама, суперхіт "З новым годам!". На яго стварэнне натхніў вусаты грамадзянін, які сем гадоў не вылазіць з тэлескрынкі. Такога нават на Альфацэнтаўры не пабачыш!

Ну а падшыванцам з БАМ-груп песеньку "Нармальна" на іх "Вольныя танцы: альтэрнатыва__ву" нашкрэбалі за пару кэцэ...

А яшчэ на лазерным пасланні ад іншапланетных пілотаў – Канцлера, Портэра, Стронга, Акрабата – ёсць і летапіс жыцця музычных андроідаў у Беларусі, спецыфічныя UFO – загадкі і на ўнутраным баку скрынкі дыска – іх расшыфроўкі ў альфацэнтаўрыйскім кодзе.

Карацей, усё гаворыць за тое, што трэба, як мага хутчэй, набываць гэты міжгалактычны артэфакт: наклад яго занадта малы, каб забяспечыць патрэбы абодвух цывілізацый. І ведайце, калі да вас завітаюць агенты FBI Малдэр і Скалі і будуць патрабаваць новы дыск "Zet", то не спяшайцеся яго выкладваць: могуць не вярнуць!

*Ан. Мяль.__ву*

## Музей вёскі Сакольнічы

У школьным краязнаўчым музеі вёскі Сакольнічы Крычаўскага раёна шырока прадстаўлены рэчы, якія апавядаюць пра побыт і звычкі тутэйшага насельніцтва. Экскурсаводам часцей за ўсё бывае настаўніца беларускай мовы і літаратуры Святлана Белавусава.

**На здымку:** Святлана Белавусава распавядае турыстам з Валгаграда пра побыт беларусаў.

**Фота Валерыя Бысава, БелТА.**



## ПАЎСТАГОДДЗЯ Ў ШКОЛЕ

У пасляваенным 1948 годзе пераступіла парог сельскай школы ў вёсцы Глінішча Хойніцкага раёна, на радзіме народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа, маладзенькая настаўніца Мальвіна Яраш. У той час ёй даводзілася быць біёлагам і географам, выкладаць працу. А заадно з'явілася ідэя стварыць музей, дзе б можна было знаёміць дзяцей з гісторыяй іх краю, паказваць прадметы побыту вяскоўцаў, расказваць пра вядомых землякоў. І такі музей з'явіўся, зараз ён носіць імя Івана Мележа. Пайшла на пенсію, адпрацаваўшы на школьнай ніве роўна палову стагоддзя, Мальвіна Якаўлена, але па-ранейшаму цягне яе да свайго дзіцяняці, да экспанатаў, якія ўстанаўлівала калісьці сваімі рукамі.

**На здымку:** Мальвіна Якаўлеўна Яраш за кроснамі, на якіх і сёння можна ткаць палатно.

**Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**




Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 4. 07. 2001 г.
Наклад 5000 асобнікаў. Замова № 1600.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 274 руб., 3 мес.- 822 руб.
*Кошт у розніцу:* 70 руб.